BULK RATE
US POSTAGE
PAID
Grand Rapids, MI
Permit No. 1141



# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 12(48) Сьнежань 1997 December Год выд. 5



## *Вясёлых Калядаў, Шчасьлівага Новага 1998-га Году і Сьв. Богаяўленьня!!!*



*Жадае Ўсім чытачам газэты — Выдавец і рэдактар.*






*Нараджэньне Тваё, Хрысьце Божа наш, асьвяціла людзей сьвятлом розуму. Бо тыя, што служылі зоркам, зоркаю-ж былі навучаныя пакланяцца Табе, Сонцу праўды, і ведаць Цябе, Усходзе з вышыняў. Госпадзе слава Табе!*

### Нова Радасьць

Нова радасьць стала,
што йшчэ ня бывала:
над Бэтлеей зорка ясна
Сьвету засіяла.

Дзе Хрыстос радзіўся,
з Дзевы ўцелавіўся —
як чалавек пялёнкамі
убога спавіўся.

Пастушкі з ягняткам
перад тым Дзіцяткам
на калені упадаюць
Сына-Бога ўслаўляюць.

І мы засьпявайма
Хрыста праслаўляйма;
народжанага з Марыі
пакорна ўпрашайма.

Просім Цябе, Божа,
просім мы, як можам:
дай нам ў небе жыцьцё шчасна,
на зямлі жыцьцё прыгожа.

### Неба і Зямля

Неба і зямля, неба і зямля,
радасна сьпяваюць.
Ангелы сьвету, ангелы сьвету,
дзіва абвяшчаюць.
Хрыстос радзіўся, Бог аб'явіўся,
Ангелы сьпяваюць, Бога вітаюць,
Вол з аслом клякаюць, пастушкі
іграюць,
"Дзіва, дзіва" аглашаюць!

У Віфліеме, у Віфліеме,
вясёла навіна:
Чыстая Дзева, чыстая Дзева
нарадзіла Сына!
Хрыстос радзіўся і г. д.

Народжанаму, Народжанаму
Богу паклон дайма.
Слава ў вышніх, слава ў вышніх
Яму засьпявайма.
Хрыстос радзіўся і г. д.







### ВІНШУЕМ!

Паважанага Янку АЗАРКУ,
шчырага беларускага патрыёта і руплівага працаўніка на грамадзкай ніве з 75-мі ўгодкамі жыцьця, што споўніліся 17 лістапада сёлета, ды жадаем яму добрага здароўя і ўсякай памыснасьці ў далейшай працы на дабро Бацькаўшчыны.

Дарагі Янка! Вітаем Вас на старонках нашае незалежнае газэты.



## «У РАСІІ ІСНУЕ 700 «ЯДЗЕРНЫХ ЧАМАДАНЧЫКАЎ»

**У Расіі ёсць 700 ядзерных мін ці, як іх яшчэ называюць «ядзерных чамаданчыкаў». Пра гэта заявіў у інтэрв'ю «Новой газете» вядомы вучоны-эколаг, былы сакратар Міжведамаснай камісіі па экалагічнай бяспецы Савета бяспекі РФ Аляксей Яблыкаў.**

Ён паведаміў, што накіраваў на імя Барыса Ельцына пісьмо, пасля чаго прэзідэнт РФ даручыў аднаму са сваіх памочнікаў разабрацца ў гэтым пытанні. «Мне прапанавалі прыняць удзел у падрыхтоўцы прэзідэнцкага ўказа, які б вырашаў асноўныя праблемы, звязаныя з кантролем за кампактнай ядзернай зброяй», — сказаў вучоны.

«Я веру, што ўсе ядзерныя міны на армейскіх складах знаходзяцца пад строгім кантролем», — падкрэсліў А. Яблыкаў. Разам з тым, па яго словах, Арганізацыя Вызвалення Палесціны двойчы заяўляла, што ў іх ёсць падобная ядзерная зброя, нелегальна купленая ў Расіі. Ёсць таксама два дэталёвых апісанні продажу такой зброі ў Чачні. «Магчыма, гэта містыфікацыя, але правяраць гэтыя факты неабходна», — сказаў вучоны.

У прэзідэнцкім указе, які рыхтуецца, А. Яблыкаў хоча адлюстраваць тры істотныя моманты: ядзерныя міны павінны быць цалкам знішчаны; прэзідэнт павінен пацвердзіць ва ўказе, што ніхто пасля знішчэння мін не зробіць гэтыя ўстройствы зноў; у крымінальны кодэкс павінны быць унесены адпаведны артыкул, які прадугледжвае асабістую адказнасць за распрацоўку і выраб кампактнай ядзернай зброі.

«Звязда» **Інтэрфакс.**

BELARUSIAN DIGEST
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108;—Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

*Расьціслаў ЗАВІСТОВІЧ (ЗША)*

# ІДЭЯ БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАСЬЦІ

У галіне культуры, арганізацыі жыцьця, мэнтальнасьці ўладаў і, нават, звычайных людзей, у Беларусі пануе старая савецкая сыстэма. Структура ўраду і працэс думаньня ўсё яшчэ такія, якімі яны былі за савецкіх часоў. Злосьць была і засталася правілам паводзінаў, а мэтаю дзяржаўнага выхаваньня клясавая нянавісьць, якая прадоўжае быць адзіным мэтадам трактаваньня чалавека, думкі якога не пагаджаюцца з тымі, якімі кіруюцца ўлады і, якіх яны, гэтыя ўлады, чакаюць ад сваіх падуладных. Для бальшавікоў і ўсіх іншых гвалтоўнікаў волі народу, свабода была заўсёды найдаражэйшым правам, бо толькі яны маглі ім карыстацца, свабодна зьдзекавацца з бяспраўнага народу. І сапраўды, дзяржава ў Беларусі, як раней, гэтак і сёньня, ёсьць такою прыгнятальніцкаю структураю, ад якое ніхто ня мае ніякае аховы. Кожны чалавек у Беларусі задаволены, як кажуць французы, сваім розумам, але не жыцьцёвым станам. Ведаючы, як дзяржава ашуквае народ, дык народ намагаецца ашукваць дзяржаву. У Беларусі пануе няпраўда, несумленнасьць. Вось таму, мабыць, і прыняў народ з вялікаю лёгкасьцю антыдзяржаўны рэфэрэндум у лістападзе 1996 году.

Для пабудовы прававое дзяржавы, трэба каб улады выконвалі і датрымоўваліся законаў, а не жылі паводле бясконцых указаў сёньняшняга прэзыдэнта Беларусі. Наша Бацькаўшчына павінна мець дзяржаўную ідэю. Гэтая ідэя патрэбная для эканомікі краіны і выхаваўчай нацыянальнай працы. На вялікі жаль, значная колькасьць людзей у Беларусі і нават беларускай эліты мае нейкае перакручанае разуменьне пра сваю бацькаўшчыну. Вельмі часта, гаворачы пра нашу краіну, людзі маюць на ўвазе тэрыторыю ад Берасьця да Камчаткі. Народ ня думае па-дзяржаўнаму. Сындром гэтак званай "нашай краіны" заўважаецца нават у трактаваньні назваў установаў і арганізацыяў. У беларускім друку на Бацькаўшчыне такія сумнай памяці нацысцкія ўстановы, як Гэстапа, СС, альбо СД не перакладаюцца ў беларускую мову, яны беларусам чужыя, але добра вядомыя сваёй жорсткасьцю і дзікімі паводзінамі. Таму вось робіцца незразумелым, чаму такія ня менш дзікія сваімі паводзінамі ўстановы, вядомыя ў цэлым сьвеце, як НКВД і КГБ перакладаюцца ў Беларусі на беларускую мову. Ці-ж гэта ня робіць іх нібыта сваімі, а не перасаджанымі на акупаваную беларускую глебу з суседняй дзяржавы, якая стагодзьдзямі пратэндуе на веліч? Ствараецца безсэнсоўная раздвоенасьць — вось тут наша краіна, а вось тут у ёй Беларусь.

Трэба прызнаць, што дагэтуль, як на Бацькаўшчыне, гэтак і ў дыяспары мы мала падкрэсьлівалі тую вялічэзную карысьць, якую меў-бы наш народ, маючы сваю дзяржаву, не тлумачылі народу пра тыя спрыяльныя ўмовы для разьвіцьця гаспадаркі ў сваёй краіне, не распаўсюджвалі ідэяў дабрабыту, якога дасягнулі іншыя краіны пры здабыцьці сваёй незалежнасьці. Да гэтага часу ў нас рабіліся высакародныя, але, магчыма, трохі рамантычныя спробы аднаўленьня беларускае дзяржаўнасьці амаль выключна праз адраджэньне нацыянальнай ідэі — мовы, культуры і мастацтва, але ігнараваліся гаспадарчыя аспэкты нацыянальнага жыцьця. Мы амаль заўсёды падкрэсьлівалі гістарычную спадчыну нашай Бацькаўшчыны і захопніцкую палітыку нашых суседзяў. Хоць і вельмі слушны, такі падыход, аднак, звужаў нацыянальную выхаваўчую працу ў адраджэньні беларускай сьвядомасьці і нацыянальнай годнасьці.

У выніку, бадай, усяго гэтага, значная частка грамадзтва Беларусі падтрымоўвае ня проста добрыя адносіны з Расеяй, але, нават, выказваецца за стварэньне аднае дзяржавы. У народзе выветрылася з памяці беларуская дзяржаўнасьць, бо існаваньне Беларускай Народнай Рэспублікі было параўнальна кароткім, а гістарычная адлегласьць паміж Вялікім Княствам Літоўскім і сучаснаю Беларусяй зрабілася досыць доўгаю, каб пакінуць адчувальны сьлед пачуцьця дзяржаўнасьці ў памяці народу. Абставіны ўскладняюцца яшчэ й тым, што напрацягу ўсяго гэтага часу, розныя акупанты нашае Бацькаўшчыны бясконца зьдзекаваліся з нашае мінуўшчыны, перакручвалі гістарычныя факты, паказваючы іх у варожым для Беларусі сьвятле, пакялічваючы шкоду ў поглядах нашых людзей, асабліва беларускае вёскі, на сваю дзяржаўнасьць.

Зараз у Беларусі пануе крызіс праўды і, трэба сказаць, што прычынай крызісу ня толькі Лукашэнка, а, бадай, наадварот. Ён ёсьць вынікам духовага крызісу, прычынянага 70-гадовым савецка-расейскім прыгонам на нашай Бацькаўшчыне.

У сьвеце паверылі ў тое, што Лукашэнка прыйшоў да ўлады дэмакратычным шляхам і, што ягоныя рэфэрэндумы былі прынятыя большынёю галасоў выбаршчыкаў. Трэба, аднак, памятаць, што падчас дыктатуры ўсё залежыць не ад колькасьці галасоў, а ад выбарчае сыстэмы і ад таго, хто лічыць галасы. Дыктатура заўсёды ведала, што рабіць, каб захаваць сваю ўладу перад выбарамі і пасьля іх.

Амаль 2000 гадоў таму, разьюшаны варожым нацкоўваньнем народ дамагаўся ўкрыжаваньня Хрыста. У 30-х гадох у савецкай імпэрыі запалоханы народ вымагаў жорсткае расправы з нічым невінаватымі ворагамі народу. Таму, мабыць, можна быць пэўным, што калі-б і сёньняшні Пілат у Беларусі запрапанаваў вырашыць лёс якога-колечы свайго ворага, дык таго небараку зьнішчылі-б на падставе большыні галасоў падуладнага народу.

Ус ваёй прамове на пачатку верасьня 1997 году ў Вільні на зьездзе прэзыдэнтаў краінаў цэнтральнае і ўсходняе Эўропы Лукашэнка казаў: "Беларусь — гэта дзяржава, дзе прыймаюцца меры па рэальнаму забясьпячэньню правоў чалавека і, перш за ўсё, правоў на жыцьцё і працу".Увесь цывілізаваны сьвет ведае, што неад'емнае права на жыцьцё і свабоду дадзена чалавеку Богам. З гэтае ісьціны, дарэчы, і пачынаецца вялікі твор 18-га стагодзьдзя — Дэклярацыя Незалежнасьці Амэрыкі і шэраг іншых працаў вялікіх людзей вольнага сьвету. Лукашэнка гэтыя творы не чытаў. Яны яго, пэўна-ж, не цікавяць. Богам дадзенае права чалавеку на жыцьцё ў Беларусі залежыць ад абмежаваньняў, якія ўлады накладаюць на грамадзянаў краіны. Таму, бяручы пад увагу палітычную рэчаіснасьць на нашай Бацькаўшчыне, дзе правы чалавека наагул не шануюцца, Лукашэнка і гаворыць пра не абсалютнае, а рэальнае забесьпячэньне правоў чалавека на жыцьцё, бо ён паводзіць сябе без увагі на Бога.

У канцы мінулага стагодзьдзя генэральны штаб нямецкага войска падзяліў свой афіцэрскі склад на чатыры групы. Гэта рабілася для таго, каб вырашыць пытаньне з якой групы браць кандыдатаў у генэралы. Да першае групы належалі інтэлектуальна здольныя і энэргічныя афіцэры; да другой групы — разумныя, але менш энэргічныя афіцэры; да трэцяй групы — людзі нізкага інтэлектуальнага ўзроўню і малаактыўныя і, нарэшце, да чацьвертай — афіцэры малаінтэлектуальныя, але вельмі энэргічныя. У выніку, афіцэры першае групы прызначаліся на пасады штабных афіцэраў, бо яны прытрымоўваліся дэталяў і выконвалі свае абавязкі вельмі спрытна. Афіцэры другое групы рабіліся кандыдатамі ў генэралы, бо яны ня толькі ведалі што трэба рабіць каб дасягнуць посьпеху, але вырашалі пытаньні ў найбольш просты спосаб, не ўскладняючы сытуацыі. Трэцяя група адразу адпадала. Афіцэры апошняй, чацьвертай групы, лічыліся вельмі небясьпечнымі, бо яны былі некампэтэнтнымі, рабілі хуткія неабдуманыя ўчынкі, ігнаруючы тую шкоду, якую яны прыносяць. Лукашэнка якраз і адпавядае вось гэтай чацьвертай групе. Больш таго, ім пануе манія самаўладства.

У падпольным фільме «Звычайны прэзыдэнт», які выпусьцілі ў Беларусі, ёсьць адно месца, дзе Лукашэнка адказвае на скаргі рабочых трактарнага заводу ў Менску пра падвышку іхных заробткаў. Лукашэнка гаварыў, што пасьля выбараў яго ў прэзыдэнты, ён, у адказ на просьбу гэтых-жа рабочых, выдаў быў указ пра нескарачэньне рабочых на трактарным заводзе. Ён гэта зрабіў не параіўшыся з эканамістамі, якія прадбачылі-б чым пагражае такі загад. Гэта якраз адпавядае паводзінам таго актыўнага, але неразумнага афіцэра, які ў Нямеччыне ніколі не дайшоў-бы да генэрала. У адказ на скаргі, Лукашэнка абвінавачваў рабочых, што яны, маўляў, будуюць трактары, але імі не гандлююць. Лукашэнка крычаў, што ня трэба трымаць трактары на складах, што няма чаго скардзіцца, а трэба гандляваць. Вось чаму навучае рабочых галоўны адміністратар ня толькі трактарнага заводу, але і ўсяе краіны. Рабочыя павінны гандляваць і быць адказнымі за вырабы свае вытворчасьці. Ці-ж гэта ня ёсьць прыхаваным намёкам на шуканьне "злачынцаў" сярод невінаватых людзей?

Вось такая балючая рэчаіснасьць у Беларусі. Праўда, гісторыя Беларусі апошніх двух стагодзьдзяў — гэта нашае змаганьне супроць духовага і фізычнага вынішчэньня нашага народу, супроць расейскага намаганьня ператварыць яго ў нацыянальна неарганізаванае, нядумаючае самастойна, безаблічнае насельніцтва. Наш народ "узьяднoўвалі", "вызвалялі", "падавалі брацкую руку", вымушалі яго браць удзел у выкананьні ганебнага "міжнароднага абавязку" ў Афганістане і, нарэшце, з другой паловы 19-га стагодзьдзя, пачалі фізычнае вынішчэньне, зрабіўшы Беларусь, у асобе Кастуся Каліноўскага, ахвяраю маскоўскае шыбеніцы.

Беларускі народ выжыў, але ён трапіў ізноў у дыктатарскае ярмо з аднаго боку здраднікаў Беларусі ўласнае гадоўлі, а з другога — чужынцаў, якія адкрыта кіруюцца імпэрскімі амбіцыямі расейскіх вялікадзяржаўнікаў. Цяперашні працэс захопу Беларусі Расейскай Фэдэрацыяй праз палітычную і эканамічную інтэграцыю ў розных прапанаваных Расеяй формах, крыху запаволіўся. У гэтым запаволеньні манія самаўладства Лукашэнкі, нягледзячы на ягоныя крыклівыя выказваньні пра інтэграцыю, саюз, ды іншыя формы прадажы беларускае дзяржаўнасьці, гуляе, мабыць, галоўную ролю. Як гэта не парадаксальна, але, можна думаць, што запаволеньне пакідае пасьля сябе няхай сабе і малаадчувальны сьлед незалежнасьці, але ўсё-ж такі сьлед, які падтрымоўвае ў народзе агеньчык ідэі беларускае дзяржаўнасьці, беларускае нацыі, ідэі існаваньня незалежнае Беларусі.

# КАМУНІСТЫЧНЫЯ РЭЖЫМЫ ЗЬНІШЧЫЛІ 110 МІЛЬЁНАЎ ЧАЛАВЕК

Гэтыя жудасныя даныя падаюцца ў кнізе "Адкрытая Рана" Пэра Альмарка, вядомага швэцкага палітыка і дзяржаўнага дзеяча.

У спакойны час XX стагодзьдзя на сьвеце было зьнішчана 170 мільёнаў людзей, а 110 мільёнаў з іх, або 2/3, прыпадае на краіны з камуністычным рэжымам.

Аўтар паведамляе, што ў СССР у 1917-1987 гадох было зьнішчана 62 мільёны чалавек, у камуністычным Кітаі — 35 мільёнаў і г. д. У кнізе гаворыцца аб пэрсанальнай адказнасьці дзяржаўных кіраўнікоў за зьнішчэньне людзей. Гэты сьпісак узначальвае І. Сталін. За ягонага рэжыму, кажа аўтар, было зьнішчана 43 мільёны ахвяраў. За ім ідзе Мао Цэдун — 38 мільёнаў ахвяр, Гітлер — 21 мільён і г. д.

Спадар Пэр Альмарк асобна апісвае крывавыя справы ў Савецкім Саюзе, які ён называе «дзяржаваю ГУЛАГ». Аўтар "Адкрытай раны" пасьлядоўна расказвае за што гінулі нявінныя людзі і якія народы ды нацыянальныя меншасьці пацярпелі найбольш.

Трэба зазначыць, што, калі гітлероўскія нацысты панесьлі масавыя пакараньні за свае злачынствы і забойствы, дык камуністычныя злачынцы і нягодзяі і цяпер ходзяць на волі са сваім крывавым мінулым...

* * *

Нядаўна ў Менску адбыўся зьлёт "Кампартыі Беларусі", на якім А. Лукашэнка выступіў з доўгім прывітаньнем і пасланьнем. На гэты "зьезд" зьбегліся розныя інтэрнацыянальныя прахадзімцы ў большасьці — расейцы. Чаму яны называюць сваю інтэрнацыянальную групоўку Кампартыяй Беларусі, і сам чорт ня ведае. Першым сакратаром гэты сталінска-бер'еўскі шабаш выбраў нейкага В. Чыквіна. Гэта асабень нізкага палёту, якога падтрымоўвае Лукашэнка, уціснуўся на Беларусь з Расеі з мэтаю ўбіваць у галовы беларусаў сталінскія мазгі...

* * *

Афіцыйны курс амэрыканскага даляра на Беларусі ўстаноўлены рэжымам у памеры 28.000 рублёў. Аднак у дзяржаўныя банкі доляраў ніхто не прадае, бо на чорным рынку той самы даляр каштуе больш за 40.000 рублёў.

# РАСТВО ХРЫСТОВА

Збавіцель свету, Гасподзь наш Ісус Хрыстос, нарадзіўся ад Прачыстае Дзевы Марыі падчас праўлення рымскага імператара (кесара) Актавіяна Аўгуста. Паводле загаду кесара ў імперыі праводзіўся ўсенародны перапіс. Палесціна, якая была пад уладай цара Ірада, таксама падначальвалася Рыму, таму ўсе яе жыхары, згодна звычаю, павінны былі адправіцца ў вызначаныя кожнаму калену, племені і роду прабацькоўскія мясціны, каб унесці свае імёны ў спіс рымскіх падданых. Дзева Марыя і заручаны з ёю праведны Іосіф былі з роду цара Давіда і пайшлі з Назарэта ў Давідаў горад Віфлеем. Гарады гэтыя і цяпер можна знайсці на карце Палесціны. З прычыны сваёй беднасці і вялікай колькасці народу ў горадзе яны не змаглі прыпыніцца ў гасцініцы і вымушаны былі размясціцца ў вапняковай пячоры, куды пастухі ў непагадзь заганялі скаціну. У такіх абставінах, не маючы не толькі зямной велічы, але звычайных умоў, Прасвятая Дзева нарадзіла Богадзіця. Яна Сама спавіла Яго і паклала ў яслі, прызначаныя для кармлення скаціны.

Першымі дазналіся пра Нараджэнне Збавіцеля віфлеемскія пастухі. Раптам з'явіўся перад імі ангел Божы і святло Гасподняе азарыла іх, яны ж разгубіліся. Ангел сказаў ім: "Не бойцеся, я абвяшчаю вам вялікую радасць, якая будзе ўсім людзям. Цяпер нарадзіўся вам у горадзе Давідавым Збавіцель, Хрыстос Гасподзь. І вось вам знак, па якім вы пазнаеце Яго: вы знойдзеце Дзіця спавітае ў яслях". І толькі ангел сказаў гэта пастухам, як нечакана з'явілася з ім мноства воінства нябеснага, спяваючы: "Слава ў вышніх Богу, і на зямлі мір, у чалавеках благаваленне". Калі ангелы зніклі, пастухі сказалі адзін аднаму: "Хадзем у Віфлеем і паглядзім, што там здарылася". Яны прыйшлі ў пячору і ўбачылі Марыю, Іосіфа і Дзіця, што ляжала ў яслях. Пакланіўшыся Дзіцяці, пастухі расказалі, што ім было пра Яго абвешчана. Марыя ж захоўвала ўсе іхныя словы ў сваім сэрцы. Пасля гэтага пастухі вярнуліся да сваіх статкаў, славячы і дзякуючы Богу за ўбачанае і пачутае.

Згодна закону, на восьмы дзень пасля нараджэння Дзіцяці, Маці Яго з Іосіфам далі Яму імя Ісус, як было ўказана Госпадам праз ангела. (Ісус — азначае "збавіцель"; Хрыстос — "Божы пасланец", "месія"). Услед за гэтым прыйшлі з усходу ў Іерусалім вешчуны-астролагі і пачалі пытацца: "Дзе Цар іудзейскі, які нарадзіўся? Мы бачылі зорку Яго на ўсходзе і прыйшлі пакланіцца Яму". Калі дазнаўся пра гэта цар Ірад, то надта ўсхваляваўся, бо думаў, што нованароджаны Цар адбярэ ў яго пасад. Ён сабраў першасвятароў і вучоных-кніжнікаў і запытаўся: "Дзе мае нарадзіцца Хрыстос?" Тыя адказалі: "У Віфлееме, як прадказана пракорам Міхеем". Тады Ірад, сабраўшы вешчуноў, выведаў у іх час з'яўлення зоркі і сказаў ім: "Ідзіце, разведайце пра Дзіцятка, а калі знойдзеце, то паведаміце мне, каб і я Яму пакланіўся". Сам жа надумаў загубіць Ісуса. Вешчуны падаліся ў Віфлеем следам за зоркаю, якая рухалася перад імі і прывяла да месца, дзе было Дзіця. Яны ўвайшлі, убачылі Дзіця з Маці Яго, пакланіліся і паднеслі Яму сімвалічныя дары: золата як Цару, ладан як Богу і смірну як прысуджанаму да пакарання смерцю. Атрымаўшы затым у сне папярэджанне ад Бога не вяртацца да Ірада, вешчуны вярнуліся ў сваю краіну кружным шляхам.

# У НЯСВІЖСКІМ КАСЦЁЛЕ

"КУЛЬТУРА"

Нясвіж — даволі маляўнічае месца на беларускай зямлі — раскінуўся ля вытокаў ракі Ушы і з'яўляецца цэнтрам Нясвіжскага раёна. Тут захавалася нямала архітэктурных помнікаў, якія сведчаць аб той значнай ролі, якую ў мінулым адыгрываў Нясвіж на Беларусі. Сярод іх найбольшую цікавасць у турыстаў, вядома ж, выклікаюць феадальны замак Радзівілаў і езуіцкі касцёл. Замак пасля вайны быў заняты пад санаторый "Нясвіж", а вось касцёл дзейнічае і зараз. Кожны дзень у ім чытае месы рымска-каталіцкі ксёндз пробашч Гэнрык Акалатовіч, як і 400 гадоў таму пры князях Радзівілах гэта рабілі яго папярэднікі.

**— Ксёндз Гэнрык, калі ласка, раскажыце трошкі пра храм, у якім мы цяпер знаходзімся.**

— Наш нясвіжскі фарны парафіяльны касцёл пад назваю "Божага Цела" быў пабудаваны ў 1593 годзе італьянскім архітэктарам Янам Марыя Бернардоні. Усе гэтыя фрэскі і малявідлы, уся прыгажосць — гэта ўсё без змен захавалася да сённяшняга дня, як і было раней. Пры ўваходзе ў касцёл можна ўбачыць фотаздымкі, якія былі зроблены падчас другой Сусветнай вайны, калі касцёл быў спалены і разбураны. І толькі дзякуючы майму папярэдніку ксяндзу Каласоўскаму, які разам з парафіянамі за кароткі тэрмін зрабіў рамонт у касцёле, мы можам сёння бачыць усю гэтую прыгажосць. Пад касцёлам знаходзяцца скляпенні, дзе ў саркафагах пахаваны ўвесь род Радзівілаў. Усе яны былі забальзамаваныя. Там таксама знаходзіцца алтар, на якім мой папярэднік, а цяпер і я адпраўляю Святую Імшу і іншыя набажэнствы. Молімся не толькі за Радзівілаў, але і за ўсіх вернікаў нашай нясвіжскай парафіі.

**— Не сакрэт, што Радзівілы жывуць зараз за мяжой.**

— Так. У 1993 годзе мы спраўлялі вялікі юбілей нашага касцёла і ўсёй нашай парафіі — 400-годдзе касцёла. Я запрасіў, і прыехала больш за 20 чалавек з сям'і Радзівілаў з усяго свету — з Англіі, Польшчы, Амерыкі, Францыі, каб наведаць сваю родную зямлю.

**— Раскажыце, ці вялікі ў вас прыход?**

— На сённяшні дзень парафія налічвае больш за 1000 вернікаў. Было больш, але дзякуючы так званай перабудове, якая пачалася амаль 10 гадоў таму, многія касцёлы ў нашым нясвіжскім дэканаце былі вернуты вернікам, як, напрыклад, касцёл у Снове, у Сейлавічах. Яны аддзяліліся ад нас у свае парафіі, і толькі ўжо на вялікія святы вернікі наведваюць сюды, у нясвіжскі касцёл.

**— А сярод вашых вернікаў многа моладзі?**

— Так, дзякуючы таму, што ёсць сёстры-манашкі, якія вось ужо шосты год працуюць у нас і вядуць рэлігійную школку. Я магу сказаць, што і дзяцей, і моладзі, і людзей у сярэднім веку шмат у нашым касцёле, дзякуй Богу.

**— З верасня пачнуцца заняткі ў школцы, а пакуль у дзяцей канікулы, так?**

— Кожны год сёстры-манашкі вядуць з ксяндзом душпастарскую дзейнасць сярод дзяцей. Праз увесь год вучаць асновы хрысціянства. Не ідзе гаворка пра каталіцызм, а ідзе гаворка пра хрысціянства, бо шмат дзяцей прыходзіць з праваслаўных сем'яў і з сем'яў няверуючых. А летам праводзіцца "канікулы з Богам". Сёстры зрабілі лагер, дзе дзеці ўвесь дзень знаходзяцца пад апекаю сясцёр, пад апекаю касцёла. Таксама сёстры нашай парафіі вядуць курсы падрыхтоўкі да шлюбу, да хрышчэння. Касцёл хоча, каб дарослыя людзі разумелі, які крок яны робяць.

**— На якой мове чытаюцца набажэнствы ў касцёле?**

— Кожную нядзелю ў касцёле дзве Святыя Імшы, бо пасля я еду на вёскі ў іншыя касцёлы. У нясвіжскім касцёле першая Імша (у 9 гадзін) толькі на беларускай мове і другая Імша (у 12 гадзін) толькі на польскай. У мяне правіла такое: я не хачу дыктаваць, на якой мове маліцца людзям, я хачу, каб людзі дыктавалі мне. Калі прыходзяць на Імшу, на хрышчэнне, шлюб ці пахаванне, першае, што я пытаюся: на якой мове будзем маліцца. У біблії напісана, каб благаславілі і хвалілі Бога на кожнай мове. Я хачу, каб кожны чалавек, калі моліцца, разумеў, аб чым ён моліцца і што ён гаворыць.

**— Ксёндз Гэнрык, скажыце, касцёл за ўсе 400 гадоў свайго існавання належаў толькі вернікам?**

— Так, толькі вернікам. Не было такога перыяду, часу, каб гэты касцёл быў забраны ад парафіі, ад вернікаў. Былі, як расказваў мне мой папярэднік ксёндз Каласоўскі, і ў 60-я, і ў 70-я, і на пачатку 80-х гадоў спробы, каб зрабіць з гэтага касцёла музей. Ну, канешне ж, ксёндз не пагадзіўся на гэта. Але цяпер пэўныя людзі таксама робяць захады, каб ксёндз перадаў касцёл у дзяржаўны заказнік "Нясвіж", які быў створаны некалькі гадоў таму. Мой пункт гледжання на гэта такі: я ксёндз, а гэты касцёл належыць не мне, а парафіі, вернікам, і я не маю права паставіць подпіс, каб перадаць гэты касцёл на якую-небудзь дзяржаўную ўстанову — ці на музей, ці на канцэртную залу, ці на нейкую мастацкую галерэю. Гэта справа вернікаў.

**— Цікава, а як дагледаюцца пахаванні Радзівілаў?**

— Праз усё лета, пакуль цёпла, вокны ў скляпеннях адчынены, каб цёплае паветра ўсё высушвала. Раз на тыдзень вернікі сходзяць туды ўніз, падмятаюць, чысцяць, прыбіраюць. Мы адпраўляем там набажэнствы. А ўжо пад восень, пад зіму, калі прыхозяць халады, мы зачыняем вокны і робім генеральную ўборку. На жаль, ёсць такі клопат, як экскурсіі. Дзеці з гэтых экскурсій б'юць шкло ў вокнах, бо ім трэба паглядзець што там у скляпеннях. За лета нам трэба шкліць вокны больш за 200 разоў. Але мы вельмі рады, што людзі прыязджаюць. Ніхто не супраць. Мы не ўлазім ні ў чые справы — ні ў справы замка, ні заведніка, — бо гэта не нашыя справы. Наша справа — парафія, касцёл, Бог, біблія. Яшчэ хадзілі чуткі па парафіі, што ксёндз вывез за мяжу пяць саркафагаў і іншыя рэчы з касцёла. Была складзена камісія, і пані Высоцкая, прафесар, паглядзела, праверыла — усё на месцы.

**— Я ведаю, што ў касцёле ёсць старажытны арган. Сёння мне, на жаль, не давялося яго паслухаць. І ўсё ж такі, калі можна будзе пачуць цудоўную арганную музыку?**

— Так, сапраўды, у нас ёсць арган, які дзейнічае. Але сястра-манашка, якая працуе арганісткай, вельмі моцна захварэла. Мы молімся, каб яна хутчэй вярнулася да парафіі і зноў у нашым касцёле загучала прыгожая музыка аргана.

**— З гэтым арганам звязана цікавая гісторыя, што здарылася ў час другой Сусветнай вайны. Можа вы раскажаце пра гэта.**

— Ксёндз Каласоўскі, мой папярэднік, расказваў, што быў такі загад немцаў, каб усе каляровыя металы, якія былі ў людзей, здалі ў камендатуру. У аргане ёсць трубкі з медзі, бронзы, алюмінія, якія таксама трэба было б здаваць. У той час у камендатуры працаваў рускі чалавек. Ксёндз з ім дамовіўся і той выдаў пасведчанне, што арганныя трубкі здалі і адправілі ў Баранавічы, а адтуль ужо на Нямеччыну. Ксёндз расказваў сам, як да яго прыйшоў нямецкі камендант: "Ксёндз, здалі?" Ксёндз адказвае, што здаў. Пайшлі правяраць у касцёл, зайшлі наверх, на хоры — усё, як і павінна быць, пустое. Ксёндз паказаў даведку і на гэтым скончылася. А пасля вайны ксёндз запрасіў майстроў з Літвы, якія прыехалі, паставілі і вось — гучыць. Калі Нясвіж вызвалілі ад немцаў, прыйшла Савецкая армія і органы СМЕРШа. Раптам ксяндза выклікаюць, паказваюць таго чалавека і пытаюцца: "Ці вы яго ведаеце?" Ксёндз расказаў тады, як гэты чалавек не адмовіў і дзякуючы яму захаваўся арган.

**— У 1944 годзе быў пажар у храме. Хто яго ратаваў?**

— Вернікі і ксёндз. Ксёндз расказваў, было лета, спякота. Раптам, прыбягае чалавек: "Ксёндз, трапіў снарад у касцёл! Касцёл загарэўся!" Пачалі біць у звон і хаця блізка фронт, людзі папрыбягалі і пачалі тушыць пажар. На жаль, згарэў дах, шмат іншых рэчаў, згарэў увесь архіў. Полымя, як кажуць, не выбірае. Але ўсё тое, што мы сёння бачым, усе гэтыя фрэскі — гэта ўсё захавалася. За тры з палавай месяцы парафіяне пад кіраўніцтвам ксяндза Каласоўскага адрэстаўравалі і адрамантавалі касцёл.

**— Ці дазваляецца спускацца ў пахаванні Радзівілаў?**

— Гэта святое месца, не музей. З пункта гледжання касцёла, рэлігіі — гэта могілкі і там трэба толькі маліцца. Як гэта можна нейкія экскурсіі на могілкі рабіць — мне гэта незразумела. Але, бывае, спецыялісты прыязджаюць, людзі, якія звязаныя з гэтым. Ну то чаму ж не? Няма такога, каб ксёндз каму-небудзь адмовіў. Касцёл — гэта святое месца, якое адчынена для ўсіх.

**Аляксандра ХАРЫТОНЧЫК,**

# Чаму ад нас адвярнуўся цывілізаваны свет?

*Народная Воля*

Нядаўна старшыня камісіі па адукацыі так званага Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь сп.Плецюхоў звярнуўся праз газеты да грамадскасці з заклікам прыняць удзел у абмеркаванні шляхоў рэформы школы, якая ўжо пачала ажыццяўляцца Міністэрствам адукацыі. Цікава атрымоўваецца, ці не праўда? Працэс, як казаў Гарбачоў, ужо як быццам пайшоў, а нас запрашаюць да сур'ёзнай размовы. Што ж, прабачым за такое спазненне — праблема надзвычай важная, і вырашэнне яе аддаваць на водкуп адным чыноўнікам нельга.

Бясспрэчны факт: задача школы — падрыхтаваць культурных, адукаваных, кваліфікаваных грамадзян. Грамадзян, якія аддана любяць і ганарацца сваёй краінай, яе гісторыяй, культурай, мовай. Якія мараць прысвяціць ёй усе свае таленты і веды, аддаць дзеля яе росквіту ўсе свае намаганні, а калі спатрэбіцца, то і самое жыццё. Якія будуць стоячы спяваць нацыянальны гімн са слязамі на вачах пры пад'ёме беларускага сцяга — ці то ў дзіцячым летніку пад Слуцкам, ці то на Алімпійскіх гульнях за акіянам.

Такая задача пад сілу толькі школе глыбока нацыянальнай і па форме і па змесце. Вось чаму так востра стаіць пытанне наконт мовы навучання. Два гады таму, пацiху ўзбіваючыся на цывілізаваны шлях развіцця, наша краіна навучала 70% вучняў пачатковай школы ў беларускіх класах. Сёння — менш за 30%. Гэта значыць, што мы нашаму новаму пакаленню далі першы грамадзянскі ўрок. Дзіцяці, якое ўжо 2—4 гады вучылася па-беларуску, раптам далі рускія падручнікі, а любімая настаўніца нечакана загаварыла па-руску. Пройдуць гады, і гэты ўрок дасць свой разбуральны плён. Сённяшнія пачаткоўцы назаўжды засвояць, што ўсё беларускае — і мова, і культура, і народ, і дзяржава — другога гатунку, што ўсё гэта нявартае не толькі любві, а нават павагі. Прысвяціць ім свой талент і высакародныя памкненні, аддаць за іх жыццё? Не дачакаецеся.

А дзяржаву, якую не паважаюць свае ж грамадзяне, не будзе паважаць ніхто ў свеце, і як самастойная дзяржава яна доўга не праiснуе. Што ж вы, дзяржаўныя асобы, чыноўнікі ды дэпутаты, робіце? Ну, людзі гэтага не разумеюць і не думаюць пра гэта, ім бы сёння выжыць, узбіцца на якую капейку, ды і што іншага ад іх чакаць, калі ў 30—50-я гады такі ж урок "грамадзянства" атрымалі і яны, калі на іх дзіцячых вачах гвалтавалі беларускую школу. Ці выхавана ў іх пачуццё нацыянальнай годнасці, без якога, дарэчы, няма і чалавечай годнасці? Ці не таму ад нас адвярнуўся ўвесь цывілізаваны свет, а на еўрапейскую тусоўку ў Страсбург Жак Шырак, дарэчы, асабіста знаёмы з Лукашэнкам, не запрасіў толькі Беларусь? Вось і шукаем мы, з кім бы пасябраваць у Кітаі ці Індыі, на Кубе ці ў Паўночнай Карэі эпохі "Чуч хэ". Ці не таму заказныя прафесары з экрана "нацыянальнага" тэлебачання разважаюць, што не існуе беларускай ці ўкраінскай нацыі (паспрабуй сказаць гэта на Украіне!), а ёсць толькі адзіны славянскі народ, і таму можна спакойна далучацца да Расіі хоць шасцю абласцямі, хоць адным Паўночна-Заходнім краем. Народ-самагубца не абураецца, маўчыць. Рабі з ім што хочаш. Прагаласуюць, як трэба, па любым пытанні не задумваючыся.

Меў рацыю граф Мураўёў, карнік беларускага нацыянальнага руху, калі пасля пакарання смерцю Кастуся Каліноўскага сказаў: "Што на гэтай зямлі недарабіў рускі штык, даробіць руская школа". Ай, малайчына, ай да палітык! На 100 год наперад бачыў, што тут трэба рабіць Расійскай, а потым савецкай імперыі. Вынік бліскучы, бо ўжо 2—3 пакаленні беларусаў проста генетычна (ці можна іх ужо называць беларусамі?) нараджаюцца без пачуцця нацыянальнай годнасці, без той асновы, без таго адзінага, што можа аб'яднаць самае расслоенае і палярызаванае грамадства вакол нацыянальнай стваральнай ідэі і забяспечыць грамадзянскі мір. А адсутнасць грамадзянскага міру — гэта грамадзянская вайна.

Я часта задумваўся, ну як гэта можна не разумець, што будучыня нашай краіны, будучыня нашага народа толькі ў беларускай школе? Толькі новае пакаленне, выхаванае ў духу павагі да беларускай гісторыі, у любові да матчынай (ужо, можа, і прабабчынай) мовы і непаўторнай культуры Беларусі можа па-сапраўднаму стацца патрыятычным насуперак нават існаванню БПСМ, у якога толькі назва беларуская. Але мы сёння няроўна раздзялілі новае пакаленне на рускія школы і беларускія класы, каб праз 10—15 год зноў немець у нашай краіне (а ці ўжо будзе яна тады) грамадзянскага міру, каб зноў спрацавала гэта мураўёўская міна запаволенага дзеяння і беларусы на роднай зямлі адстойвалі перад міліцэйскімі дубінкамі свае права "людзьмі звацца" і вучыць дзяцей у беларускай школе і ва універсітэце (дзе ён, беларускі універсітэт?).

Чаму большасць "несвядомых беларусаў" не ў стане зразумець гэтых разважанняў і ў лепшым выпадку зводзяць усе спрэчкі аб беларусізацыі да каўбасы, а ў горшым — варожа абвінавачваюць у нацыяналізме, не ведаючы, што гэта такое і што ва ўсім свеце гэта з'ява (нацыяналізм) успрымаецца як прыярытэт у першую чаргу сваіх нацыянальна-дзяржаўных інтарэсаў, тое, што раней у нас называлася патрыятызмам? І мне здаецца, што я знайшоў адказ на гэта пытанне. Адказ прыйшоў да мяне раптоўна, калі я выпадкова назіраў па тэлебачанні, як з асалодай шоу-мэн Ярмольнік выстаўляў на смех невінаватых людзей, якія нават і не думалі, што над імі робіцца вытанчаны здзек, і бадзёра спявалі пад пласцінку бязбожна фальшывыя песні. У мяне склалася ўражанне, што Ярмольнік, каб павесяліць публіку, спецыяльна выбірае для гэтага конкурсу людзей, якія зусім не маюць музычнага слыху і проста не ў стане правільна ўзяць ніводнай ноты. Даволі многа людзей не ў стане пачуць свой фальш, ім прыродай гэтага не дадзена. А скажаш ім, што спяваць яны не ўмеюць і станеш першым ворагам. Так і чалавек, які не мае пачуцця годнасці — і чалавечай, і нацыянальнай, проста не ў стане зразумець боль свядомага беларуса і сярод іх, свядомых, будзе шукаць ворагаў, іх будзе вінаваціць ва ўсіх бедах свайго жыцця, жабрацкага і рабскага. Так гэта сёння і адбываецца. У адной краіне жывуць два народы як з розных планет і варожая большасць стараецца знішчыць нават маладыя парасткі беларускасці, інстынктыўна адчуваючы пагрозу з боку беларускай школы. Любы чалавек, які гаворыць па-беларуску — вораг, радыкал, апазіцыянер. За апошнія тры гады раскаталі апазіцыю катком. Каб дагадзіць рэжыму, нават на з'ездзе настаўнікаў не прагучала беларускае слова. Але зяляніна прабіваецца і праз асфальт. І новае пакаленне зноў паставіць пытанне беларусізацыі краіны.

Хочацца правесці яшчэ адну паралель і параўнаць, услед за прэзідэнтам, Беларусь з гітлераўскай Германіяй. Гітлеру тады ўдалося, скарыстаўшы цяжкасці жыцця людзей, умела згуляўшы на самых нізменных інстынктах, раскатаць катком тое, што мы зараз называем агульначалавечымі каштоўнасцямі. Яны гарэлі на кастрах разам з кнігамі Гётэ і Талстога, а розумам людзей апанавала расісцкая ідэалогія — арыец самы моцны, а моцнаму ўсё можна. Забівай, рабуй, гвалтуй, палі, рэж, у іншых забяры тое, чаго табе не стае. Цэлы народ захварэў і дружна падтрымліваў Гітлера на ўсіх рэферэндумах, якія ён таксама любіў праводзіць. 90 працэнтаў — "за". Усё, што рабіў Гітлер, — воля яго народа. А тыя 10 працэнтаў, хто не паверыў "псіхаватаму кашпіроўскаму", хто быў сумленнем нямецкай нацыі, вымушаны былі шукаць сабе "іншую радзіму" — хто за мяжой, як Эйнштэйн ці Томас Ман, а хто ў Бухенвальдах і Дахау. Праз гады нямецкі народ жахнуўся, усвядоміўшы тое, што нарабіў, і зараз у другім пакаленні нясе пакаянне.

Понцій Пілат казніў Хрыста, правёўшы своеасаблівы "рэферэндум". І натоўп крычаў: "Распні яго, распні!" Так што самыя жахлівыя злачынствы гісторыі былі "асвянцоны" воляй народа.

Пройдзе час, усвядоміць і наш народ-самазабойца, што ён нарабіў на лукашэнкаўскіх рэферэндумах. Пазбавіў сябе не толькі мовы і нацыянальных сімвалаў, не толькі дэмакратычных правоў і свабод, а страціў годнасць, адметнасць і ў перспектыве — незалежнасць. І нашы суседзі па Еўропе гэта добра зразумелі, таму і адвярнуліся ад нас, як ад чалавека, ад якога дрэнна пахне.

Ілжывыя "інтэгратары" тлумяць людзям галовы, разважаючы аб працэсе еўрапейскай інтэграцыі. Яны там, у Еўропе, маўляў, нават граніцы зліквідавалі і нам трэба з Расіяй аб'яднацца. Але нават сляпы не можа не бачыць, што разам з працэсам сапраўды аб'ектыўнай эканамічнай і палітычнай інтэграцыі раўнапраўных цывілізаваных краін з аднолькавымі дэмакратычнымі стандартамі пабудовы дзяржаўнай улады і грамадзянскіх правоў і свабод ні адна з краін не паступаецца сваёй нацыянальнай адметнасцю, усё больш увагі надае развіццю сваёй самабытнасці, бачачы ў ёй адзіную крыніцу патрыятызму, а значыць, і свайго працвітання. Вазьміце хаця б Літву, Украіну ды ўсіх тых, хто яшчэ шэсць год таму быў з намі ў адной лодцы. Хто з іх зрабіў замежную мову дзяржаўнай і вырошчвае ў "чужых" школах "пятую калону"? "Ці мы разумнейшыя за ўсіх?" Вялікі Хэмінгуэй, апісваючы грамадзянскую вайну ў Іспаніі, яскрава паказаў: хаця франкісты штурмавалі Мадрыд чатырма калонамі, рэспубліканцаў згубіла пятая калона, якая была ўнутры рэспублікі, у самым Мадрыдзе. Сёння такая "пятая калона" кіруе ў Беларусі.

У гісторыі было ўжо ўсё, у тым ліку і адраджэнне краін, якія стагоддзямі не мелі сваёй дзяржаўнасці і згубілі сваю мову. З яе адраджэння пачала пасля першай сусветнай вайны атрымаўшая незалежнасць амаль цалкам нямецкамоўная Чэхія. Пасля другой сусветнай вайны ўзнікла дзяржава Нарвегія, якая некалі таксама згубіла сваю мову і размаўляла па-шведску. І яе адраджэнне пачалося з адраджэння мовы. Я ўжо не кажу пра Ізраіль, мова якога амаль 2000 год існавала толькі ў Талмудзе. Гэтыя і многія іншыя краіны пачыналі свой самастойны шлях з нацыянальнай школы і мовы, затое цяпер маюць досыць каўбасы.

І менавіта ва ўладзе, сярод дэпутатаў і чыноўнікаў, павінны быць людзі, якія гэта разумеюць і якія вывядуць краіну на цывілізаваны шлях, з якога мы часова збочылі ўслед за прэзідэнтам. Ён так і сказаў, что не павядзе нас за цывілізаваным светам. І наконт пошукаў іншай радзімы для іншадумцаў — гэта таксама яго словы. Што ж, прэзідэнты прыходзяць і ўходзяць, а Беларусь, спадзяюся, застанецца і адродзіцца. І пачне гэты цяжкі шлях доўгага і пакутлівага аздараўлення з беларускай школы, са стварэння нацыянальнай сістэмы адукацыі, каб, змяніўшы пакаленне, заняць нарэшце дастойнае месца члена сям'і еўрапейскіх народаў, якога паважаюць, бо ён сам пачаў сябе паважаць і ўсведамляць. А пакуль што спяваюць ва ўладзе людзі без слыху і голасу і не чуюць свайго фальшу.

Хацеў паразважаць спакойна — не атрымалася. Надта відавочна і непрыхавана, нахабна вядзе сябе ўлада з беларусамі, якія хочуць імі быць. Уявіце, ніводнага прамоўцы па-беларуску на з'ездзе настаўнікаў, ніводнага запрошанага ад Таварыства беларускай школы для абмеркавання рэформы школы ў Беларусі! Што ж, спадар Плецюхоў, прашу лічыць гэты артыкул заяўкай Таварыства беларускай школы на ўдзел у працы вашай камісіі. Весь інтэлектуальны патэнцыял і вопыт нашай арганізацыі (а яны немалыя) — да вашых паслуг. Запрашайце. Можа, тады ў выніку работы вашай камісіі прагучыць хоць некалькі чыстых нот.

**Аляксандр СЯДЗЯКА,**
**віцэ-прэзідэнт Таварыства беларускай школы.**

# Еўрапейскі дом: рэальнасць ці толькі мара?

Дык ці стане агульнаеўрапейскі дом рэальнасцю? Ці так і застанецца ён толькі прыгожай марай? Аб гэтым вялася грунтоўная размова на прадстаўнічай міжнароднай канферэнцыі "Наш агульны дом — Еўропа", якая днямі адбылася ў Мінскім адукацыйным цэнтры. У ёй прымалі ўдзел вядомыя навукоўцы і грамадскія дзеячы Германіі, Расіі, Польшчы, Украіны, Літвы і Беларусі.

Аб чым жа гаварылі знакамітыя выступоўцы?

***Валерый Ціхіня,***
***прэзідэнт Беларускага фонду прававога супрацоўніцтва:***

### "Падмуркам дома павінны стаць агульнапрызнаныя нормы міжнароднага права"

Ён адзначыў, што ў Еўропе ідзе працэс фарміравання новага міжнароднага клімату, пашырэнне дэмакратычнай прасторы. Наш кантынент становіцца адзіным цэлым. Агульным падмуркам еўрапейскага дома павінны стаць агульнапрынятыя нормы міжнароднага права. Яны павінны быць кодэксам паводзін для ўсіх. Пры гэтым асаблівая ўвага павінна надавацца павазе правоў чалавека і яго свабодзе. Абарона правоў чалавека павінна заняць прыярытэтнае месца ва ўсіх дзяржавах.

На жаль, падкрэсліў Ціхіня, Беларусь яшчэ вельмі далёкая ад ідэалаў свабоды і дэмакратыі. А без гэтага немагчымы і сацыяльны прагрэс.

***Алег Соскін,***
***дырэктар інстытута трансфармацыі грамадства (Украіна):***

### "Якім шляхам пойдзе Украіна ў Еўропу: польскім ці балгарскім?"

Такое пытанне было асноўным у выступленні кіеўскага госця. Па ягоным перакананні, на Украіне хутка развіваецца прыватны сектар. А вось палітычная сістэма засталася ранейшай. Як яе змяніць? Калі ўдасца шляхам выбараў, дык Украіна пойдзе ў Еўропу шляхам Польшчы і Чэхіі. Але ўсе бачылі, як цяжка прыйшлося Балгарыі, каб зламаць камуністычную сістэму. Для гэтага спатрэбілася выходзіць на вуліцы многім сотням тысяч людзей. Прамоўца выказаў думку, што і Украіна перад такім выбарам. Калі яна адкіне камуністычныя путы, дык стане рэальнасцю будаўніцтва Балтыйска-Чарнаморскай секцыі агульнаеўрапейскага дома.

Важная задача Еўропы — супрацьстаяць недарэчным ідэям панславянізму і еўраазійскай прасторы, якія закліканы расколоць Еўропу.

***Казімірэ Прунскене,***
***дэпутат сейма Літоўскай Рэспублікі:***

### "Літва выбрала свой шлях"

Літва выбрала свой шлях у Еўропу і ідзе ім — такая тэма выступлення вядомай дзяячкі. У яе краіне праведзены рэформы па ўсіх сферах жыцця, і Захад не мае да іх прэтэнзій. З 1994 года пачаўся рост вытворчасці. У гэтым годзе чакаецца прырост на 5%. Сярэдняя зарплата складае 215 долараў.

За што ж пакуль крытыкуе Еўропа Літву? За тое, што прыватызацыя не прынесла патрэбнага эфекту і многія прадпрыемствы яшчэ не сталі па-сапраўднаму сучаснымі. Не спынены крызіс банкаў.

Спадарыня Прунскене таксама лічыць, што Балтыйска-Чарнаморская вось можа быць вельмі перспектыўнай, бо жыццё рухаецца не толькі з Захаду на Усход.

# “Не давайце чужынцамі быць...”

*Родная мова — гэта душа народа,*
*яго скарб, багацце і аздоба.*

**Я.Лёсік**

Будзем шчырымі: прадстаўнікі іншых нацый часцей дапамагаюць сваім суродзічам, яны больш дружныя ў параўнанні з беларусамі. Памятаецца, у мяне нават неяк запыталі: “Чаму татары ”якшаюцца" паміж сабою, а нашы хлопцы не сябруюць?" Не адразу знайшоў адказ, але задумаўся. Успомніў: калі служыў у арміі на Украіне, у нашым вайсковым калектыве часта абмяркоўваліся вось такія выпадкі. Дастаткова было зачапіць хоць аднаго “каўказца”, як невядома адкуль прыбягалі дзесяткі джыгітаў, дапамагалі свайму кунаку і маглі добра “атмалаціць паганца”. З такімі лепш не звязвацца, такіх не крыўдзяць. А вось калі збівалі нашага хлопца, дык яго рэдка хто абараняў, а яго землякі маглі стаяць побач і смяяцца.

Хаця ўжо нашы хлопцы даўно не служаць за межамі, але праблема засталася. На Беларусі здараюцца сітуацыі, калі бойка, нават збіццё, забойства адбываюцца пры маўклівым патуранні суседзяў, знаёмых, прахожых. Аб такіх выпадках былі публікацыі з крымінальнай хронікі ў друку. Пра адсутнасць дапамогі ў крытычны момант вядома і з расказаў адзін другому. А вось прадстаўнікі Прыбалтыкі і іншыя “нацыяналісты” больш салідарныя паміж сабою. Зямляцкія адносіны ў іх прыкметны на кожным кроку. У чым тут справа?

Адказ, мне здаецца, трэба шукаць у гісторыі. Многія народы захавалі сваю мову, культуру, звычаі, традыцыі, рэлігійнасць, геаграфічныя назвы, сімволіку, гістарычную памяць і іншыя “атрыбуты” кансалідацыі. Вось гэта і зблізае людзей. Усё гэта — духоўнае адзінства народа, яго душа. Захаваўшы сваю душу, грамадства застаецца народам, нацыяй, а страціўшы, становіцца насельніцтвам, або проста жыхарамі.

Захапіўшы наш край царскія, а потым і бальшавіцкія каланізатары рвалі нашы карані, наша адзінства. *“...Здзекваліся над мовай нашай і прагналі яе са школы, з судоў, з усіх інстытуцый”* (Я.Лёсік). Усюды выганяючы роднае слова, яны надалі беларускай мове статус “непатрэбнай”. Навошта тады яе вучыць? Розныя рэлігійныя канфесіі таксама ўносілі раскол у грамадства. *“Каталік стаў сінонімам паляка, а праваслаўны — маскоўца. Беларусы-каталікі мянуюць сябе палякамі, а беларусы праваслаўныя — расейцамі”* (Я.Лёсік). Заменена большасць геаграфічных назваў. У школе не вучылі сапраўдную гісторыю Беларусі, наш народ страціў гістарычную памяць. *“У безупынным змаганьні з няооляй сваёю Беларусь страціла ўсё: сваю палітычную незалежнасьць, сваю школу, асьвету, законы (Літоўскі статут) ды нават імя свайго забыліся. Мы сталі нацыяй без імя, народам без прозьвішча, гуртам “тутэйшых”, “простых” людзей, “дзядзькамі” з забранага краю. Народ змогся, страціў апошнія сілы ды... заснуў летаргічным сном”* (Я. Лёсік). На старонках незалежных газэт былі публікацыі аб тым, як восем разоў дзялілі Беларусь, абкарналі яе межы. Але нават не гэта самае страшнае, а тое, што загубілі наша адзінства, абакралі нашы душы. Максім Багдановіч пісаў:

*Народ, беларускі народ!*
*Ты цёмны, сляпы, быццам крот,*
*Табою усягды пагарджалі,*
*Цябе не пускалі з ярма.*
*І душу тваю абакралі, —*
*У ёй нават мовы няма.*

Страціўшы духоўнае адзінства, людзі Беларусі сталі чужымі паміж сабою, а чужыя рэдка дапамагаюць адзін другому: мая хата з краю... Лёгка быць смелым, адчуваючы падтрымку, як каўказскія джыгіты. Адсутнасць магчымай дапамогі параджае страх. Баязліўцы часцей уступаюць, іх філасофія звужаецца да слоў “абы ціха...”.

Чаму дрэнна быць насельніцтвам і добра быць народам, нацыяй? Хачу прывесці вобразныя параўнанні. Насельніцтва — гара пяску. Павеяў ветрык, і ўсё рассыпалася. Народ — гэта цвёрды, моцны падмурак, здольны вытрымаць любыя віхуры. Насельніцтва не здольна аб’яднацца, каб абараніць свае правы, і яго можна бясконца рабаваць. *“Бо без мовы, без роднага слова народ як тое быдла, з якім робяць хто што хоча”* (Я.Лёсік).

Расійскай імперыі патрэбна была Беларусь без беларусаў, таму і праводзілася русіфікацыя. Ідзе яна і цяпер. Як цукар раствараецца ў вадзе, так і беларускасць у чужым навязаным асяроддзі. Ніякі сумленны чалавек не будзе аспрэчваць яўныя факты дыскрымінацыі карэннага этнасу. Колькасць кніг, газет, часопісаў на рускай мове ў дзесяткі, а можа, нават і ў сотні разоў большая, чым на беларускай. На Беларусі няма беларускага тэлебачання, беларускіх фільмаў, зачыняюцца беларускія школы і г.д. Колькасная перавага рускамоўных (дакладней, трасянкамоўных) грамадзян Беларусі — вынік працяглай русіфікацыі і не можа быць апраўданнем прапаганды рускага шавінізму.

У цывілізаваным грамадстве паважаюць правы меншасці. *“Самадзяржавіе дбала пра тое, каб мы забыліся, што мы беларусы, каб мы выракліся мовы нашай і ўсяго роднага, з дзяцінства нам мілага, ды парабіліся маскоўцамі або расійцамі. І самадзяржавіе мабілізавала дзеля гэтага ўсю сваю моц: школы, суды, цэрквы, жандармаў, чыноўнікаў і ўсё, што магчыма было”* (Я.Лёсік). Гэта ж самае, толькі ў больш хітрай форме, рабілі і кіраўнікі Крамля. Вынішчаючы мясцовую культуру і навязваючы сваю, каланізатары набываюць права быць гаспадарамі на захопленых землях. Калі на Беларусі гучыць толькі руская мова, прычым не лепшы яе варыянт, дык тады наш край будзе лічыцца часткаю Расіі. Гэта прычына для ўмяшання краіны-суседкі ў нашы ўнутраныя справы, і тады па праву “старэйшага брата” размеркаваннем нашага здабытку будуць займацца кіраўнікі Крамля. *“З усіх падаткаў, якія збіраў маскоўскі ўрад з нашай Беларусі, нават палавіна не варачалася дадому, а тое, што вярталася, ішло на такія ўстановы, каторыя прыносілі нам адну шкоду, як, напрыклад: паліцыя, чужая школа, земскія начальнікі, чужыя суды, законы і т.д.”* (Я.Лёсік). Урад БССР таксама плаціў Маскве каланіяльны падатак, значную частку якога трацілі на ўзбраенне і падтрымку крамлёўскіх сатэлітаў за мяжою. А савецкі народ жыў у галечы.

Мова і нацыянальная ідэя — гэта падмурак дзяржаўнасці. У гісторыі не было багатых калоній. Трэба быць гаспадарамі ў сваім Доме. Толькі свая краіна можа забяспечыць для ўсіх дабрабыт. *“...Пакі не запануе ў краю яго (народа) наша родная беларуская мова, да таго часу ён (народ) будзе бедны, цёмны і галодны”* (Я.Лёсік). І гэта сапраўды так.

Войны дзялілі народы на каланізатараў і залежных ад іх “абарыгенаў”. Усе свабодныя людзі захавалі сваю дзяржаўнасць і карыстаюцца роднай мовай. Страціўшыя самастойнасць, суверэнітэт, паднявольныя “абарыгены” “абшчаюцца” на чужой мове метраполіі. Пасля распаду імперыі былыя калоніі паступова адраджаюць сваю мову і культуру. Гэты працэс актуальны і для Беларусі. На жаль, прарасійскія імперскія сілы топчуць гэтыя кволыя парасткі.

Доўгі час адносіны паміж народамі складваліся па “закону джунгляў”, з пазіцыі сілы. Магутныя краіны заваёўвалі, захоплівалі слабых. Іх моц “прырастала” за кошт другіх.

Заняўшы чужы край, каланізатары імкнуліся “застолбить”, як кажуць, прыхватызаваць паднявольныя тэрыторыі. Для гэтага яны вынішчалі мясцовую культуру, “ірвалі карані” і навязвалі свае погляды, каб быць гаспадарамі ў чужым **Доме.** Так рабілі амаль усе агрэсары, заваёўнікі, захопнікі, інтэрвенты — “інтэгратары”. У гэтым сэнсе рускія каланізатары не горш і не лепш за іншых. Асабліва люта дзейнічалі іспанскія канкістадоры. На занятых землях яны выжылі са свету амаль усіх індзейцаў, не кажучы ўжо пра іх культуру.

Неабходна ўсім бараніць наш родны **Дом — Беларусь,** суверэнітэт, самастойнасць. Апалагеты шавінізму заяўляюць, што рускія і беларусы — гэта амаль адзін народ. **Я думаю, што гэта хлусня.** Нейкае падабенства рускай і беларускай моваў створаны штучным шляхам у час “рэформы” 1933 года. Больш чым за 200 гадоў рускага панавання беларусы так і не навучыліся гаварыць па-руску, а гавораць на “трасянцы”. Мая маці не ведала чужой мовы і ніколі не карысталася ёю. *“А як цяжка беларускаму дзіцяці вывучаць расійскую мову, — ведама кожнаму. Язык іх не можа выгаварыць шорсткіх расійскіх слоў”* (Я.Лёсік). Праўдзівасць гэтага я пазнаў на сабе, калі вучыўся ў школе. Захавалася фанэтыка роднай мовы. Ды і самі рускія не прызнаюць беларусаў сваімі рускімі. *“Не трэба думаць, што калі навучыўся крошку граматна гаварыць і пісаць па чужому, дык ты ўжо і не беларус. Твой рот цябе выдасць. І палякі, і маскоўцы смяюцца з польскае і рускае мовы нашых перакінчыкаў”* (Я.Лёсік). Ды і сёння, пачуўшы нашу “трасянку”, рускія крыва ўсміхаюцца: “Бульбаш”. Дастаткова ўспомніць парад лялек на НТБ з удзелам галоўнага беларускага персанажа. Нават сам Лукашэнка па-руску гаворыць з акцэнтам.

*“Для нас, сучасных дзяцей Беларусі, тымі лекамі, той вадою жывучай і гаючай ёсць наша беларуская мова і асвета на грунце роднай культуры”* (Я.Лёсік). Бацькі, якія пасылаюць сваіх дзяцей у рускую школу, самі таго не жадаючы, іх духоўна абкрадваюць, *“калечаць душы іх, дапамагаюць абмаскаліваць родны край...”* (Я.Лёсік). Разам з рускай мовай прывіваецца рускі менталітэт, руская імперская ідэя. З нашых хлопцаў рыхтуюць будучых ваякаў для будучых “афганістанаў”, “таджыкістанаў”, “чэчняў” і г.д. Шырока сягае “сфера расійскіх інтарэсаў”, толькі вавой.

Я.Лёсік пісаў, як вучылі ў школах на Беларусі ў пачатку XX стагоддзя: *“Уся навука па школах была накіравана на здзек і знішчэнне ўсяго беларускага. Усе кніжкі, падручнікі, малюнкі падбіраліся і дапасоўваліся так, што наша роднае ўхілялася ўбок, аддавалася на смех, выкалянне і кпіны, тапталася нагамі і мяшалася з гразёю, а за прыклад выстаўлялася чужое, велікарускае, дзецям не дасгупнае і малазразумелае. І калі часам траплялася, што абысці чаго немагчыма было, дык яго наўмысля маляваў і ў такіх ганебных хварбах, што нявінным дзецям заставалася толькі сароміцца, цурацца, забываць і выракацца”* (Я.Лёсік). У свой час, калі я вучыўся ў школе, адчувалася перавага ўсяго рускага над нашым родным. Выхаванне грамадзянства на прасторы ад Буга да Курыл размывае мясцовы беларускі патрыятызм, які абалгалі *“нацыяналізмам”* і фактычна забаранілі. Прыярытэт глабальных расійскіх інтарэсаў над мясцовымі прыводзіць да збяднення нашага краю. Такое выхаванне прыносіць шкоду і нашай краіне, і дзецям. Чужы патрыятызм не можа аб’яднаць людзей. Такія школьнікі пазбаўляюцца духоўнага адзінства паміж сабою, без якога не будзе ўзаемнай падтрымкі і дапамогі з маленства да старасці.

Каб адолець узнікшыя праблемы, кожнаму з нас патрэбна выручка. Часцей дапамагаюць адзін другому людзі, якія адчуваюць духоўную блізкасць. Усе нашы народы-суседзі шануюць сваё роднае, а мы абыякавы да яго. Дык што ж мы за людзі? Каб не быць чужымі паміж сабою, трэба вярнуць усё тое, што можа зблізіць нас.

Найважнейшым сродкам кансалідацыі грамадства з’яўляецца мова. *“Трэба нам самім шанаваць сваю мову і гаварыць скрозь па-беларуску, як гэта робяць расійцы ці палякі, тагды і чужыя людзі стануць шанаваць яе”* (Я.Лёсік).

На маю думку, большасць людзей Беларусі ў рознай ступені ведае родную мову. Каб авалодаць ёю больш дасканала, трэба проста захацець. Многім цяжка пазбавіцца моўнага нігілізму, які прывівалі дзесяткамі гадоў, яны саромяцца гаварыць па-беларуску, баяцца кпінаў “калхознік”, “дзярэўня”, “бульбаш” і г.д. На такія абразы ня варта звяртаць увагі. Добры, разумны чалавек такое паскудства гаварыць не будзе.

Вельмі важна разумець неабходнасць нацыянальнага адраджэння, практычную выгаду кансалідацыі грамадства. Толькі на грунце роднай культуры мы пабудуем лепшае жыццё.

Мова ствараецца сотнямі гадоў, адкідваючы непатрэбнае і выбіраючы самае лепшае. Як і маці, яна не можа быць непрыгожай. ***“Усе яны — і польская, і расійская, як і наша беларуская (мова) — маюць права на жыццё і пашану: усе роўныя і аднакія, няма паміж іх ні горшай, ні лепшай, як няма сярод роўных большага ці меншага”*** (Я.Лёсік). Калі будзем кожны дзень думаць, гаварыць, чытаць, пісаць па-беларуску, дык наша родная мова зблізіць, нават парадніць нас. Мы перастанем быць чужымі, вернуцца ўзаемная падтрымка, салідарнасць паміж намі.

«Народная Воля»

**Аркадзь ГАЛАЙ,**
**рабочы Мінскага трактарнага завода.**

## У дамах праведзены вобыскі

**МІНСК. 13 лістапада. ІНТЭРФАКС--ЗАХАД. На кватэры міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі Васіля Лявонава, затрыманага 11 лістапада, супрацоўнікамі аб’яднанай следчай групы пракуратуры, МУС і КДБ рэспублікі праведзены вобыск.**

В. Лявонаў падазраецца ў крадзяжы дзяржаўнай маёмасці ў асабліва буйных памерах і ў злоўжыванні службовым становішчам.

Як паведаміў Інтэрфаксу высокапастаўлены прадстаўнік праваахоўных органаў Беларусі, «вынікі праведзенага вобыску дазваляюць зрабіць выснову, што следства знаходзіцца на правільным шляху».

Паводле сцвярджэння крыніцы, знойдзенага ў кватэры В. Лявонава «ўжо дастаткова для таго, каб перадаць справу ў суд без правядзення дадатковага расследавання».

Вобыск быў праведзены і ў доме старшыні аграпрамысловага аб’яднання «Рассвет», двойчы Героя Сацыялістычнай Працы Васіля Старавойтава ў вёсцы Мышкавічы Магілёўскай вобласці.

Ён таксама быў затрыманы 11 лістапада па падазрэнню ў злоўжыванні службовым становішчам.

У доме В. Старавойтава знойдзены карабін, паляўнічыя стрэльбы айчыннай і імпартнай вытворчасці, а таксама 1200 долараў ЗША і некалькі соцень тысяч расійскіх рублёў.

Цяпер В. Лявонаў і В. Старавойтаў утрымліваюцца ў следчым ізалятары КДБ Беларусі.

Па словах крыніцы, стан здароўя падследных здавальняючы.

Згодна з дзеючым у рэспубліцы заканадаўствам абвінавачанне ім будзе прад’яўлена не пазней 21 лістапада.

«Звязда»

# Civil aviation - situation report

By Tatiana KALINOWSKAYA

An audit of the State Committee for Aviation, conducted by the Ministry of Finance, the Committee for State Control and the State Committee for Taxation showed that, like many other sectors of the Belarusian economy, Belarusian aviation is having a hard time.

The industry has suffered a 19.1% decrease in the number of passengers and a 1.8% fall in the number of cargo flights. Belarusian passenger planes are flying half-empty: airlines sell only 42% of seats on passenger flights. A large proportion of passengers on Belarusian Airlines are children traveling abroad for recuperation. 42% of flights are consistently delayed. Among the flights to CIS countries, only those to Moscow and Nizhnevartovsk are profitable, the average profitability of the flights ranging from 1.5 to 26%. Belarusian aviation also receives some of its revenues from foreign airlines.

As of 1 July 1997, the debt of the Belarusian cargo and passenger airlines totaled 585.5 billion roubles, up 72% from last year's figure. The airlines' debtors owed Belarusian airlines a total of 770.5 billion roubles (up 60% from last year's level).

According to Hryhory Fedaraw, the Chairman of the State Committee for Aviation, the sector's profits in the first half of 1997 reached 117.8 billion roubles, including 70 billion roubles generated directly by air transportation. The number of international air passengers flying on Belarusian planes increased 6.6%.

The development of Belarus' civil aviation in the last few years has been supported entirely by the industry's own resources. In 1996, Belarus' airlines re-invested 118.5 billion roubles of their profits, and the total amount of investment for that year stood at 121.9 billion roubles. Of the 94.1 billion roubles invested in civil aviation in the first eight months of 1997, 89.6 came from the airlines' profits. Belarusian Airlines has not had a single crash since 1989. In Russia, there are 0.8 air crashes every million passengers and 0.6 crashes for every thousand kilometers of air routes. The civil aviation of Russia is operating at a loss.

The results of the audit at the State Committee for Aviation were discussed at a government meeting last week. Reporting to the government, the agencies that conducted the audit stated that the national airline Belavia has been fined 1.8 billion roubles and will be required to pay another 8.4 billion roubles for various irregularities, dealing mostly with hard currency transactions.

The Chairman of the Civil Aviation Committee, Mr Fedorov, told the meeting that the Belarusian civil aviation will soon be faced by the need to replace its fleet. Twelve Tu134A and another 18 Ty154 planes have reached a critical rate of depreciation of 60%. Unless this problem is addressed now, the Belarusian civil aviation will soon have no planes to fly.

According to Fedorov, the industry needs a loan of $75 million. Fedorov believes that it is cheaper to buy planes than to lease them. He said that the Belarusian airlines are considering the European A-320 and American Boeing-737 as the planes that they will likely purchase.

Members of the government have nevertheless decided that leasing would be a better alternative, as there is no money for a loan. A special commission has been set up, headed by Mr Fedorov, to consider this issue in depth.

The priority area for government investment is the renovation of the international airport Minsk-2. The government plans to invest 18 billion roubles and DM 9.2 million of loan money into this project.

The government also called for a development strategy for the national civil aviation that would define a role for Belarus' 14 provincial airports that are now standing idle. ■

# Курапаты 1937-га. Праз шэсцьдзесят год...

Пасля памінальнай суботы, калі за сямейным сталом узгадваюць свой радавод, добрым словам і з удзячнасцю памінаюць продкаў, заслужыўшых таго, каб жыць у памяці нашчадкаў, адбылася яшчэ адна не менш значная падзея.

Народны фронт Беларусі ладзіў чарговае шэсце на Курапаты.

У поўдзень на плошчы імя Якуба Коласа беларускай сталіцы сабралася каля дзвюх тысяч чалавек, якія калонай рушылі да месца захавання ахвяраў палітычных рэпрэсій трыццатых гадоў і асабліва сумнапамятнага 1937-га, з якога і вядзецца адлік лёсаў, незаслужана асуджаных "тройкамі". І хаця сёння пра Курапаты ўжо вядома ва ўсім свеце, Ваенная пракуратура Беларусі ўсё вядзе следства, то прыпыняючы яго на пэўны час, то зноў узбуджаючы ў сувязі з "новымі акалічнасцямі", якія быццам бы выяўлены ў ходзе следчых дзеянняў.

І галоўнай фігурай, якая ўчыняла пакуты і здзекі над захаванымі тут людзьмі, выступае не "сталінская машына рэпрэсій", удала запушчаная атачэннем правадыра "усіх часоў і народаў", а бравыя і бяздушныя салдаты вермахта, якія па загаду Гітлера былі гатовыя на любыя ўчынкі і дзеянні. Тое, што ў часы фашысцкай навалы існавалі масавыя расстрэлы, сумніву не выклікае. Маглі "падзахоўваць" расстраляных, з пункту гледжання ваенных пракурораў, і ў Курапатах. Але ўскрыццё брацкага магільніка пацвердзіла асноўную версію (сёння гэта ўжо неапраўяржальны факт!): ахвяры захаваныя ў Курапатах задоўга да вайны.

Тым часам да калоны, якая рухалася па вуліцы Я.Коласа, Лагойскаму тракту, далучаліся сотні і сотні грамадзян. Удзельнічалі ў жалобным мітынгу ў Курапатах ужо каля чатырох-пяці тысяч мінчанаў, у большасці сваёй — маладых. Тое, што сённяшнюю моладзь хвалюе лёс іх равеснікаў, якія назаўсёды засталіся маладымі, яны не пашкадавалі сваіх жыццяў дзеля будучыні нашчадкаў — захавання заваёў дэмакратыі, правоў і свабод грамадзян.

На мітынгу выступілі намеснік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Аляксандр Добравольскі, намеснік старшыні сойму Народнага фронту "Адраджэнне" Лявон Баршчэўскі, іншыя аратары. І хто б не браў слова, усе абавязкова вялі гутарку пра незалежнасць Рэспублікі Беларусь, захаванне дэмакратыі ў краіне, развіццё беларускасці і г.д. Аднак наступствы на правы грамадзян, свабоду слова, якія чыняць улады, шмат у чым нагадваюць, на думку аратараў, сумнавядомы 1937-мы год. І таму барацьба канстытуцыйным шляхам за свае правы — галоўны накірунак у дзейнасці дэмакратычных сіл.

**Вітольд БАРАВІЦКІ.**

**Памяць**

## Крыж "Пакутнікам Беларусі"

У аршанскіх "Курапатах", каля вёскі Андрэеўшчына, сябрамі Аршанскай і Талачынскай радаў Беларускага народнага фронту праведзена ўшанаванне ахвяраў сталінскага генацыду. Тут устаноўлены крыж "Пакутнікам Беларусі".

**Алесь ЧАХОЛЬСКІ.**

# Personal incomes in the spotlight

By Andrei MAKHOVSKY

Starting next January, Belarusians and foreigners who permanently reside in Belarus may be asked to declare their incomes annually, and to explain where they got the money to buy the property that they already possess. A relevant draft law has already been forwarded by the President to his Parliament, the National Assembly. There is little doubt that this draft will be rapidly approved.

The new draft law "On the Declaration of Incomes and Property by Private Individuals" has a lot in common with its predecessor, Presidential Decree No. 2 "On declaring Incomes", that was issued last spring. The draft law introduces tougher procedures to control personal incomes. The decree applied almost exclusively to property transactions completed after it was issued. For any purchase worth more than 500 minimum wages, the buyer was required to state the source of his money.

The decree caused a panic in the real estate market, as it covered nearly all transactions involving flats.

The buyers of residential property were mostly reluctant to declare their incomes. As a result, the market of residential property stalled until a method was found to bypass the decree. When loopholes in the decree were found, the state lost control over the population's income again.

The draft law introduces greater control over nearly all types of personal incomes. Individuals will now be required to declare not only their current incomes, but the source funds used for the purchase of the property that they already possess.

For the first time in the history of tax-collection in Belarus, the annual declaration of incomes has been introduced. Only a small number of people have had to declare their incomes annually so far. Now, almost everybody will have to do it. "The declaration of all incomes received annually within or outside Belarus is mandatory", reads the draft. Only those who have only one employer will be required to declare their incomes.

Individuals will have to submit annual declarations of their incomes and property, including real estate, vehicles and items worth more than 200 minimum wages (40 million roubles, or $1,300).

According to the authors of the draft, the new law will increase budgetary revenues. The Head of the State Tax Committee, Mikalai Dzyamchuk, believes that the present system which taxes the personal incomes of citizens every month is not efficient enough. Annual income declarations should considerably increase the number of tax payers and the amount of taxes raised. According to the taxation authorities, the present legislation enables the state to control the citizens' incomes, but it also needs to control their expenditures.

The reason behind the new law is clear. Having exhausted all the opportunities to collect taxes from enterprises, the state intends to tighten control over the incomes of ordinary citizens'. In 1996, the proportion of income tax stood at 12.6% of the total tax proceeds. The total amount of taxes collected from private individuals last year was BLR 5,300 b.

This amount increased considerably in the first months of this year. The Ministry of Finance and taxation agencies believe that in the future, the proceeds of personal income taxes should represent more than one half of all taxation proceeds.

However, the authors of the new law are rather modest in their assessment of its immediate effect. Tax collecting agencies expect the revenues from the income tax to increase to BLR 500 b, while cost of the law's implementation is estimated at BLR 300b. If these projections are realistic, the implementation of the law will generate a net profit of a mere BLR 200 b, and the costs may even exceed the potential benefits.

Minsk News ■

## Picket against President in Pinsk

A picket of solidarity with the victims of Lukashenka's regime has taken place in Pinsk. It was sponsored by the local division of the Belarusian Social Democratic Party "Narodnaya Hramada'. The picketers distributed leaflets in which they expressed disagreement with Lukashenka's policies.

"Беларускі Дайджэст" чакае Вашае ахвяры на Выдавецкі Фонд!!!

*Арнольд ПЯТРОВІЧ*

# Ахвярам

*Не пахаваны, а схаваны,*
*Без нараджэння, смерці даты,*
*У зямлю радамі ўтрамбаваны*
*Былыя жыцці ў Курапатах.*

*Схаваны ад суда людскога,*
*Ад праўды-маткі чалавечай,*
*Не ўстанавіць імён нікога,*
*І твары час даўно знявечыў.*

*Чый сын там, муж, матуля, айцец?*
*Ужо ніколі не пазнаеш...*
*Злачынствы замялі забойцы*
*І спіс забітых дзесь схавалі.*

*З зямлі вы выйшлі ў Курапатах —*
*Зірнуць на свет, убачыць сонца,*
*Як безыменныя салдаты,*
*Што палі з ворагам у бойцы,*

*Абараняючы Радзіму,*
*Свой родны край, які любілі.*
*За што ў вас адабралі імя,*
*За што згнаілі ў магіле?*

*О, людзі, мы вас будзем помніць,*
*Ахвяры сталінскіх рэпрэсій.*
*Узвядзём мы жыццям вашым помнік*
*У Курапацкім гэтым лесе...*

# У Прагу, Скарыне пакланіцца

"Беларуская зорка" — так названа свята, прысвечанае 480-годдзю выдання Францыскам Скарынам у Празе першай кнігі Біблії — "Псалтыры". Арганізаванае па ініцыятыве Пасольства Беларусі ў Чэшскай Рэспубліцы, падтрыманае Саветам Міністраў, МЗС, Дзяржкамдрукам і Міністэрствам культуры нашай краіны, яно пройдзе 30—31 кастрычніка ў самой чэшскай сталіцы і ў некалькіх гарадах Паўднёвай Чэхіі.

У складзе афіцыйнай дэлегацыі нашай рэспублікі, якая адпраўляецца ў Прагу 28 кастрычніка, — кнігавыдаўцы, дзеячы культуры, вучоныя, літаратары, журналісты, прадстаўнікі міністэрстваў і грамадскіх арганізацый. Акрамя сустрэч у пражскай мэрыі і з кіраўніцтвам некалькіх гарадоў краіны, чакаецца адкрыццё ў выставачнай зале храма святых Кірылы і Мяфодзія экспазіцыі "Беларусь: духоўная спадчына". У яе ўвайшлі прадукцыя сучасных беларускіх выдавецтваў і работы вядомых нацыянальных мастакоў.

А тэатралізаванае прадстаўленне "Беларуская зорка", удзельнікамі якога стануць артысты студыі "Сябры" і танцавальнага ансамбля "Харошкі", пройдзе ў Пражскім градзе і на цэнтральнай плошчы горада. У тых месцах, дзе калісьці працаваў над сваімі кнігамі геній беларускага адраджэння і дзе роўна год таму намаганнямі кіраўніцтва Беларусі і Чэшскай Рэспублікі пры садзейнічанні многіх дзяржаўных і недзяржаўных структур Чэхіі былі ўстаноўлены памятная дошка ў гонар вялікага гуманіста і бронзавая скульптура Францыска Скарыны.

**Лідзія ПЕРАСЫПКІНА.**

## Belarusian government in exile supports EU's recent decision



The Council of the Belarusian People's republic, which consists of Belarusians living in other countries and considers itself the Belarusian government in exile, has welcomed the recent decision made by the European Union in relation to Belarus, according to which the only legitimate Parliament is the dissolved 13th Parliament and the only legitimate constitution is the Constitution of 1994. The Council has confirmed its commitment to facilitate foreign countries' relations with Belarus after Lukashenka's regime has fallen and democratic elections have taken place.

# «У ІНШЫМ МЕСЦЫ — Я ПРОСТА НА ГАСТРОЛЯХ»

**У Гродзенскім лялечным тэатры пад час рэпетыцыі новай п'есы мы сустрэліся з акцёрам Віктарам Шалкевічам.**

Сам ён — "местачковец". Нарадзіўся ў Поразаве, што на Свіслаччыне. Скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Працаваў у Гродзенскім абласным драматычным тэатры, пасля ў лялечным. Віктар — адзін з вядомейшых беларускіх бардаў: лаўрэат шматлікіх рэспубліканскіх і міжнародных фестываляў аўтарскай песні, якія праходзілі на Украіне, у Польшчы, на Беларусі. Ён запісаў два альбомы: "Правінцыя" (1993) і "Смутны беларускі блюз" (1996). Цяпер працуе над трэцім альбомам пад назвай "Балады і рамансы". Апроч таго, ён актыўна здымаецца ў кіно: сыграў галоўныя ролі ў фільмах "Мёд асы" ("Беларусьфільм"), "Слёзы блуднага сына" (студыя "Спадар "Д"). Акцёр часта звязваецца ва ўяўленні гледача з вобразам Жыгімонта Аўгуста II, апошняга караля з дынастыі Ягелонаў, якога ён сыграў у адным з першых сапраўды беларускіх фільмаў (дзе нават рэпетыцыі праводзіліся на беларускай мове!) "Салодкі яд кахання", знятым на студыі "Спадар "Д".

**— Віктар, што для вас значыць Гродна?**

— Гэта горад, у якім я жыву і які не памяняю ні на які іншы: ні на Мінск, ні на Маскву. Я б назваў яго вельмі зручным: калі хочаш з кім-небудзь сустрэцца, то дастаткова ў 9 гадзін раніцы, ці пасля пяці, выйсці на цэнтральную, былую Дамініканскую, вуліцу (цяпер Савецкую). Горад невялікі і вельмі ўтульны. А для мяне галоўнае ў жыцці — сябры, якіх тут можна заўсёды сустрэць.

**— Для вас як для творцы прынцыпова тое, што вы працуеце ў Гродне, ці не?**

— Я працую на Беларусі і для Беларусі. Гэта не залежыць ад геаграфіі. У любым іншым месцы — я проста на гастролях. Калі браць беларускую аўдыторыю, то гомельская публіка вельмі падобная да магілёўскай, тая — да мінскай, а брэсцкая — да гродзенскай. Здаецца, уся нацыя ўжо дакладна выяўляецца і пачынае кансалідавацца. Калі казаць пра Гродна як рэгіён, то ён, вядома, выдзяляецца тым, што тут захавалася больш даўніны.

**— Гродна лічыцца архітэктурным цэнтрам Беларусі. Ці накладае гэта адбітак на творчасць музыканта, акцёра?**

— У кожнага горада Беларусі ёсць свой пясняр. І ён "апявае" ці то магілёўскую Ратушу, ці то мінскі Чырвоны касцёл. Але дзе яшчэ на Беларусі вы знойдзеце горад, у якім захаваліся два каралеўскія замкі? Калі ідзеш па Гродне, то адчуваеш, што гісторыя Беларусі ў значнай часткі рабілася ў гэтым месцы. Тут пабывалі ўсе каралі польскія і вялікія князі літоўскія, з якімі звязана многа легенд. Так, вялікі князь літоўскі Ягайла, паводле падання, паслухаўшы ў Гарадзенскай пушчы салаўя, прастыў, захварэў і памёр. У Гродне жыў і памёр каралевіч, святы Казімір Ягелончык, патрон Літвы. Кароль польскі, вялікі князь літоўскі Стэфан Баторый на доўгі час зрабіў наш горад фактычнай сталіцай Рэчы Паспалітай... Амаль кожны з нашых манархаў пакінуў у Гродне трывалы след. З навейшай гісторыі — тут жылі Максім Багдановіч, Эліза Ажэшка. Са снежня 1918 года ў Гродне знаходзіўся ўрад БНР, які пераехаў сюды з Мінска пасля заняцця яго бальшавікамі. Я назваў толькі некаторыя з агульнавядомых фактаў, а колькі мы яшчэ не ведаем?

**— Што, на вашу думку, з сучаснага жыцця Гродна можа стаць легендай у будучыні?**

— Для мяне такой легендай стаў пісьменнік Аляксей Карпюк — светлы, высокага духу чалавек. Ён шмат падарожнічаў пешшу з кіёчкам (бо цяжка было хадзіць). Мне здаецца, ён яшчэ адпаведна не ацэнены.

Легендай можа стаць і Валодзя Кіслы — выдатны мастак-рэстаўратар. Гэта чалавек, які разам з нябожчыкам прафесарам-гісторыкам Міхаілам Ткачовым і фізікам Аляксандрам Мілінкевічам, старшынёй абласнога грамадскага аб'яднання "Ратуша", знайшоў рэшткі апошняга польскага караля Станіслава Аўгуста. Астанкі яны перадалі польскім уладам, пасля чаго адбылося ўрачыстае перазахаванне. Усе трое былі ўдастоены адзнакі за ўклад у польскую культуру. Да таго ж праз Валодзіны рукі прайшлі амаль усе абразы, што ёсць у гродзенскіх касцёлах і цэрквах. Многія з іх ён проста вярнуў да жыцця.



**— Гродзенец... Гэта паняцце звязана толькі з штампам у пашпарце ці з асаблівай "нацыянальнай" свядомасцю?**

— Мне не хацелася б ідэалізаваць менавіта свой горад. Калі я быў у Магілёве, то паглядзеў і на радавітых магілёўцаў — гэта класныя людзі... Увогуле, чалавек, які доўга жыве ў любым горадзе, адрозніваецца ад таго, хто толькі што прыехаў з вёскі.

**— Гродзенцамі не нараджаюцца, гродзенцамі становяцца... Ці можна так сказаць?**

— Бадай што не варта так шчыльна звязваць культуру чалавека з тым месцам, дзе ён жыве. Бо можна жыць у сталіцы — і не ведаць, дзе знаходзіцца тэатр.

**— Гродна цікавы і тым, што тут знаходзіцца адзін з цэнтраў Таварыства вольных літаратараў, якое лічыць адной са сваіх найбольш важных заслуг тое, што зраўняла ў "літаратурных" правах сталіцу і перыферыю.**

— Перыферыя — гэта найперш адсутнасць інфармацыі. А ў нас ідуць два польскія тэлеканалы. Я часам даведваюся пра тое, што робіцца ў Мінску, раней і лепей за мінчукоў.

**— Цяпер папулярная ідэя метакультуры. Калі раней да культурных знакаў чалавек адносіўся як да прасторавых аб'ектаў (блізкае — далёкае), то цяпер, дзякуючы таму ж тэлебачанню, камп'ютэрным сеткам, знікаюць апазіцыі "сваё-чужое", "блізкае-далёкае" і адпаведна — "горад-правінцыя".**

— Я не магу пашкадаваць аб тым, што мы перасталі хадзіць у лапцях. Дзякуй Богу, што ўсё гэта прайшло, так і павінна быць. Мне здаецца, што чалавека ад чалавека цяпер адрознівае не нацыянальная вопратка, а стыль, спосаб мыслення — гэта прыкмета нашага часу. Тут няма чаго шкадаваць. Хопіць, наплакаліся. Горад — гэта заўсёды горад. Ён патрабуе, каб людзі зменьваліся, мянялі свае звычкі. А бывае, чалавек як лускаў семкі ў вёсцы, так і тут лускае ды смецідь. Толькі саманазываецца "пісьменнікам" або "мастаком". Адразу відаць, хто застаўся ў горадзе дзеля "абшчажыцця", а хто адчувае ў гарадской культуры, мастацтве духоўную патрэбу.

* * *

На гэтым наша гутарка скончылася. Акцёра чакала сцэна і гастролі ў Францыі. Як мы даведаліся пазней, французская публіка Гродзенскі лялечны тэатр сустрэла на "Ура!". Цікавасць да пастаноўкі была настолькі вялікая, што гледачоў прывозілі з населеных пунктаў, якія знаходзяцца нават за 120 кіламетраў ад Ліможа, дзе выступалі нашыя артысты. Як мяркуе спадар Шалкевіч, калектыву ўдалося падарыць французам сапраўдны "наш тэатр, беларускае мастацтва і нават усю Беларусь". Дырэктар аднаго з французскіх тэатраў Макс Эйроль мяркуе запрасіць гродзенцаў са спектаклем "Прыхадзень" у наступным годзе на цэлы месяц.

**«Беларусь»**

**Фота Яраслава ВАНЮКЕВІЧА.**

## ПОЛЬКА БЕЛАРУСКАЯ

Музыка **Ігара Лучанка**




*Толькі зойдзе ў хату госць —*
*Будзе ўзята чарка.*
*Ёсць гармонік, бубен ёсць —*
*Чым не гаспадарка!*
*І ад печы, ад сяней,*
*Колькі маем духу,*
*Мы заскачам, як раней,*
*Полечку-трасуху.*

Прыпеў:

*Полька, полечка-трасуха,*
*Не чужая — нашая,*
*Абдымуха, паскакуха —*
*Лепшае нямашака.*
*Для цябе штаны малыя*
*І спадніца вузкая,*
*Паміж Польшчай і Расіяй —*
*Полька беларуская!*
*Між Літвой і Украінай —*
*Полька беларуская!*
*Полька беларуская!*

*Там, дзе сосны — там і лес,*
*Дзе парог — там ганак,*
*Дзе Алеся — там Алесь,*
*Дзе Васіль — там Ганна.*
*І не трэба нас вучыць,*
*Абуваць у лапці,*
*Піць умеем і рабіць,*
*Полечку скакаці.*

Прыпеў.

*Не выкідвалі ікон,*
*Не забылі Бога,*
*Наша хата — пяць акон,*
*Столя ды падлога.*
*Столя белая-бяла,*
*А падлога суха,*
*І ад печы да стала —*
*Полечка-трасуха!*

Прыпеў.

# Дык дзе ж указ у падтрымку беларускай мовы?

Сродкі масавай інфармацыі даносьяць да нас безліч фактаў скасавання беларускай мовы ў дзіцячых садках, школах, ПТВ і іншых установах. У ВНУ з ёй ужо, можна сказаць, расправіліся.

Цвяроза ацэньваючы сітуацыю, невялічкая групка людзей — шчырых патрыётаў Айчыны, хапаючыся за саломінку, стварыла Таварыства беларускай мовы. Пагадзіцеся, сам факт існавання такога таварыства — сорам для краіны. Гэта ўсё роўна, што стварыць куток піянераў у Палацы піянераў. Хіба ж беларуская мова і нацыя павінны і могуць трымацца на энтузіязме жменькі сяброў бясправнага таварыства? Хіба ж моўнае пытанне — гэта не пытанне вярхоўных улад краіны? Хіба ж не Савет бяспекі Рэспублікі Беларусь павінен адвесці пагрозу, якая навісла над нацыяй? Мне, простаму грамадзяніну, сорамна за стан роднай мовы і страшна за будучае свайго народа. А вам, паважаны кіраўнікі дзяржавы? Напэўна, вы лічыце, што саюз з Расіяй вымагае такіх вялізных ахвяр. Але чаму ж мы не можам з гонарам увайсці ў гэты саюз, як гэта робіць Расія, не губляючы нацыянальнага аблічча?

Хачу звярнуцца асабіста да Вас, паважаны Аляксандр Рыгоравіч. Бо менавіта на гады Вашага кіравання прыходзіцца найбольшы ўціск на беларускую мову. Напэўна, Вы памятаеце, як у мінулым годзе на адным з апошніх пасяджэнняў Вярхоўнага Савета 13-га склікання (напярэдадні рэферэндуму) заявілі, што Вамі рыхтуецца ўказ у падтрымку беларускай мовы. Столькі надзей Вы тады пасеялі ў шчырых патрыётаў Айчыны! Але дзе ён, той указ? Замест яго Вы неўзабаве ўвялі закон аб наданні "роўнага" статусу рускай мове. Пагадзіцеся, што такая "падтрымка" роднай мовы нагадвае дапамогу выклiканага да дому доктара, які кідаецца не да паміраючага гаспадара, а да яго здаровай ружавашчокай жонкі.

Паважаны Аляксандр Рыгоравіч, адважуся запэўніць Вас, што нельга стаць нацыянальным лідэрам, калі не адстойваць нацыянальных каштоўнасцей свайго народа. Я ўжо даўно ў пенсійным узросце, і ногі дрэнна згінаюцца, але гатовы стаць на калені і прасіць Вас аб адным: заступіцеся ж Вы за беларускую мову, уважце растаптаны гонар беларуса. Бо пакрыўджаны расіянін (хоць такіх у нас, здаецца, няма) можа лёгка знайсці падтрымку і прытулак у сваёй вялікай краіне. А куды падацца пакрыўджанаму этнічнаму беларусу?

Моўнае пытанне закранае інтарэсы ўсёй краіны, незалежна ад палітычных поглядаў грамадзян. Таму лічу, што і Вярхоўны Савет 13-га склікання, легітымнасць якога прызнае Еўропа, павінен падзяліць адказнасць за стан роднай мовы і разгледзець пытанне пра ход выканання Закона "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" (1990 г.) на сваім сходзе альбо, калі будзе кворум, пасяджэнні.

**Сямён ЗАБРАДЗЯНЕЦ,**
**пенсіянер.**

Гомель.

*Галіна СЯРГЕЕВА* "КАНТАКТЫ І ДЫЯЛОГІ"

# Беларуская прысутнасьць у замежных краінах і праблемы яе захаваньня

Складаная эканамічная, сацыяльна-палітычная і нацыянальная сітуацыя ў нашай дзяржаве адмоўна адбілася і на становішчы беларусаў, якія жывуць за межамі Айчыны. Эміграцыя, як сведчыць сусветны вопыт, з'яўлецца дзейсным фактарам у гісторыі Бацькаўшчыны, а яе палітыка ў дачыненні да замежных суайчыннікаў істотна ўплывае на лёс дыяспары, нацыянальнай супольнасці ў замежжы. Важнасць асэнсавання гэтага для нашага грамадства становіцца асабліва відавочнай і актуальнай у сувязі з тым, што па-за межамі Беларусі сёння пражывае 3–3,5 млн. беларусаў, шмат іншанацыянальных выхадцаў з беларускай зямлі. Тая акалічнасць, што трэць беларускай нацыі рассеяна па свету, з усёй вастрынёй ставіць праблему кансалідацыі беларусаў як нацыянальнай і культурнай цэласці, як важнага фактара ўмацавання нашай дзяржаўнасці, выхаду з усеабдымнага крызісу, вырашэння іншых жыццёва важных праблем.

Адметнасцю беларускай дыяспары з'яўляецца тое, што ва ўсе часы яна фармавалася галоўным чынам шляхам вымушанага, прымусовага ці добраахвотна-прымусовага адтоку насельніцтва ў выніку войнаў, нацыянальна-вызваленчых паўстанняў, цяжкага эканамічнага становішча, нацыянальнага і рэлігійнага ўціску, масавых рэпрэсій і інш. І ў гэтым трагедыя для народа, бо ў апошнія два стагоддзі амаль з кожнага пакалення беларусаў найбольш ініцыятыўныя, адукаваныя, свядомыя асобы, патрыёты Бацькаўшчыны сталі выгнаннікамі. Такія страты на пакутлівым гістарычным шляху моцна аслабілі генафонд нацыі. Нямала нашых суродзічаў, для якіх Айчына стала мачыхай, свае таленты, розум, працавітасць аддалі іншым народам, сталі іх гонарам і славай.

Сёння беларусы рассеяны па розных кантынентах. Найбольш сканцэнтраваны яны ў суседніх дзяржавах, прытым цяпер на памежных тэрыторыях жывуць на сваіх этнічна спрадвечных землях, з'яўляюцца карэнным насельніцтвам. Ад 250 да 400 тысяч беларусаў, па звестках даследчыкаў, пражываюць у Польшчы — галоўным чынам на Беласточчыне. Пасля распаду СССР больш двух млн. беларусаў аказаліся па-за Беларуссю. У наступныя гады вызначылася тэндэнцыя да вяртання суродзічаў на Бацькаўшчыну, хоць адначасова выразна выявілася і запавольванне гэтага працэсу. Апошняе выклікана пагаршэннем сацыяльна-эканамічнага становішча на Бацькаўшчыне, цяжкасцю ўладкавання, бо рэпатрыяцыя суродзічаў праводзіцца без дзяржаўнай падтрымкі. У 1992–1994 гг. Беларусь прыняла з новых незалежных дзяржаў 281 тыс. асоб (з іх амаль 150 тыс. беларусаў). Цяпер на постсавецкай прасторы сканцэнтравана пераважная большасць усіх замежных беларусаў. У Расіі іх — больш 1 млн. 100 тыс. асоб, Украіне — больш 400 тыс., Казахстане — 170 тыс., Латвіі — амаль 100 тыс., Літве — 50 тыс., Эстоніі — 25 тыс. і г.д.

Акрэсленыя асяродкі нашых суродзічаў пасля Другой сусветнай вайны ёсць у Германіі, Францыі, Англіі, Бельгіі і іншых еўрапейскіх краінах. Значная іх прысутнасць (сотні тысяч) на амерыканскім кантыненце — у ЗША, Канадзе, Аргенціне, Бразіліі. Некалькі тысяч беларусаў і выхадцаў з нашых зямель аселі ў Аўстраліі (Сідней, Мельбурн, Паўднёвая Адэлаіда). На афрыканскім кантыненце пражываюць у асноўным сучасныя перасяленцы па сямейных прычынах (так званая загсавая эміграцыя).

Найбольш кампактныя нацыянальныя асяродкі замежжа сталі там астраўкамі беларускай прысутнасці, апірышчам у захаванні народных традыцый, мовы, гісторыі, памнажэнні здабыткаў беларускай культуры. Менавіта эміграцыя доўгія гады зберагала ідэю дзяржаўнасці, незалежнасці Беларусі, гістарычныя нацыяналныя сімвалы — бел-чырвона-белы сцяг і герб "Пагоня". Яна жорстка крытыкавала таталітарную савецкую сістэму, раскрывала наступствы яе панавання на Бацькаўшчыне — працэсы асіміляцыі, дэнацыяналізацыі, разбурэння беларускай спадчыны, культуры, абуджала нацыянальную свядомасць, несла па свеце праўду пра Беларусь, яе гісторыю і гаротны нацыянальны стан.

Дзякуючы працы, талентам і самаахвярнасці многіх беларускіх патрыётаў у замежжы існуюць грамадскія, палітычныя, асветна-культурныя, навуковыя, рэлігійныя арганізацыі, суполкі мастакоў, нацыянальны друк і асвета, пабудаваны храмы, культурныя цэнтры, створаны бібліятэкі беларускай літаратуры, музеі, архівы, дзейнічаюць хоры, мастацкія калектывы. Яны сталі духоўнай асновай нацыянальнага самавызначэння, садзейнічаюць захаванню і перадачы нашчадкам традыцый свайго народа, яго мовы, культуры, гісторыі, выяўленню сваёй самабытнасці.

Важкі набытак эміграцыі і замежных суродзічаў на сваіх, спрадвечна этнічных землях — там створаны багаты пласт беларускай культуры, творы літаратуры, выяўленчага і музычнага мастацтва. Нашай грамадскасцю асэнсоўваюцца творчая і навуковая спадчына беларускага замежжа, якая ўжо стала адным з фактараў нацыянальнага адраджэння ў самой Беларусі. Апублікаваны навуковыя і літаратурныя творы суайчыннікаў, арганізоўваліся іх мастацкія выставы. Адбыліся дзве міжнародныя канферэнцыі "Культура беларускага замежжа". Дзейнічае музейная экспазіцыя "Беларусы ў свеце". Рыхтуецца даведнік "Беларускае замежжа" (Скарынаўскі цэнтр).

Неардынарная з'ява — заснаванне і развіццё ў замежжы беларускай нацыянальнай царквы. Цяпер у ЗША, Канадзе, Вялікабрытаніі, Аўстраліі дзейнічаюць больш 20 прыходаў Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, беларускія прыходы юрысдыкцыі канстанцінопальскага патрыярхата, беларуская каталіцкія (уніяцкія) місіі ў Лондане, Парыжы і парафія ў Чыкага. Царкоўна-рэлігійнае жыццё на нацыянальнай аснове складаецца і на постсавецкім абшары.

Беларускія замежныя асяродкі выявілі свой ўласны патэнцыял жыццядзейнасці, здолелі закласці добры падмурак для актыўнага нацыянальна-культурнага жыцця, выкарыстоўваюць прыклад іншых нацыянальных супольнасцей у краінах пражывання.

Такая сувязь з іншымі народамі — беларуская апора ў сьвеце. Але ці дастатковы наш патэнцыял, каб захаваць і засьведчыць сваю адметнасьць, зьвязаць носьбітамі традыцыяў і культуры свайго народу, каб найбольш кампактныя асяродкі, найперш на сваіх этнічных землях, набылі нацыянальнае аблічча. Усё гэта залежыць ад вырашэньня ўнутраных праблем дыяспары, а яшчэ больш — ад стану нашай дзяржаўнасьці, адносін да дыяспары на Бацькаўшчыне яе кіраўніцтва і грамадзкасьці.

Трэба адзначыць, што сучасная сітуацыя ў беларускім замежжы характарызуецца наступнымі тэндэнцыямі.

Па-першае, затухае беларускае жыццё ў заходняй дыяспары. Адыходзіць пакаленне выгнаннікаў, эмігрантаў Другой сусветнай вайны. Пры адсутнасці прытоку новых перасяленцаў (у СССР не было свабоднага ўезду і выезду) адбываўся разрыў паміж пакаленнямі.

Заходняя дыяспара слаба падрыхтавалася да прыезду новай, сённяшняй эміграцыі з Беларусі, аказання ёй падтрымкі, стварэння адпаведных фондаў. Дэнацыяналізаваныя новыя перасяленцы, як правіла, не ўключаюцца ў нацыянальна-арыентаваныя беларускія асяродкі пасляваеннай эміграцыі, у працэс стварэння на Захадзе ўласных арганізацый. Выключэнне складае заснаванае ў 1993 г. у Нью-Йорку Сусветнае згуртаванне яўрэяў Беларусі.

Абнадзейвае павелічэнне колькасці аселай на Захадзе творчай і навуковай нацыянальна-дэмакратычнай інтэлігенцыі, якая ажывіла нацыянальна-культурную працу (Нью-Йорк, Кліўленд). Адраджаюцца беларускія асяродкі ў Празе, Германіі. Трэба адзначыць і зусім новую з'яву — на Захадзе як вынік жорскай барацьбы ўлады з апазіцыяй з'явіліся першыя палітычныя эмігранты з Беларусі. Гэта спрыяла прыцягненню да нашых праблем увагі міжнароднай супольнасці.

Другая тэндэнцыя ў жыцці дыяспары — самавызначэнне беларусаў, іх арганізацыйнае аб'яднанне на постсавецкім абшары. Цяпер ужо некалькі дзесяткаў беларускіх таварыстваў, згуртаванняў, цэнтраў праводзяць культурна-асветніцкую, грамадскую дзейнасць у Расіі, на Украіне, у Малдове, Літве, Латвіі, Эстоніі, Казахстане, Кыргызстане, Узбекістане. Першы з'езд беларусаў свету паскорыў гэтыя працэсы, але падзеі трох апошніх гадоў на Радзіме ўскладнілі выжыванне дыяспары, паставілі пад пытанне яе далейшы лёс.

Калі ж гаварыць аб сітуацыі ў цэлым, то яе можна вызначыць як крызісны стан беларускага замежжа. Цяжкасці ў захаванні і пашырэнні беларускай прысутнасці па-за Беларуссю вынікаюць з індыферэнтнасці значнай часткі нашых суродзічаў, іх асіміляцыі, амбіцыйнасці асобных лідэраў свецкай і царкоўнай плыняў беларускага руху за мяжой. Шмат дзе не стае ахвярных, энергічных людзей, якія ўзялі б на свае плечы арганізацыйныя клопаты. Замежныя суайчыннікі слаба арганізаваны, раз'яднаны па ідэалагічных і палітычных матывах, адносінах да незалежнасці Беларусі. На гэтай падставе адсутнічае паразуменне паміж беларускімі суполкамі ў Маскве, Рызе, Таліне і інш.

Усходнія дыяспары не маюць каардынацыйных органаў, якія, напрыклад, дзейнічаюць у Польшчы, Канадзе, а цяпер ужо і ў Літве. Дзеянні суродзічаў не ўзгадняюцца ў межах асобных дзяржаў і паміж імі. Нават колькасна вялікія і кампактныя беларускія асяродкі ў Маскве (70 тыс.), Санкт-Пецярбургу (70 тыс.), Кіеве (30 тыс.), багатыя на інтэлектуальныя сілы, не маюць нацыянальных школ, свайго друку. На постсавецкай прасторы (акрамя Латвіі і Літвы) адсутнічае беларускі перыядычны друк. Існуе пэўная канфесійная раз'яднанасць, узнікаюць непаразуменні паміж некаторымі ўплывовымі прадстаўнікамі праваслаўя і уніяцтва. На постсавецкай прасторы пашырэнню нацыянальна-культурнай дзейнасці замінае бядотны эканамічны стан суайчыннікаў.

Слабая матэрыяльная база нацыянальнай, грамадскай, культурна-асветнай і іншай дзейнасці тлумачыцца вельмі сціплай у большасці краін падтрымкай мясцовай улады, занядбанасцю гэтай справы з боку Бацькаўшчыны, слабым падключэннем да фінансавання нацыянальных суполак прадпрымальнікаў беларускага паходжання.

Самай жа галоўнай праблемай, якая вызначае існаванне і ўстойлівасць беларускай дыяспары, захаванне яе як часткі народа, з'яўляецца стан нашай дзяржаўнасці, пагроза знікнення з карты свету незалежнай Беларусі, спад нацыянальна-культурнага адраджэння, неадназначнае стаўленне кіруючых органаў Беларусі да замежных суайчыннікаў, у прыватнасці да нацыянальна-акрэсленых арганізацый, якія выказваюцца за незалежную, дэмакратычную Беларусь. Малады беларус з Беласточчыны Міраслаў Урбановіч так вызначыў ролю Бацькаўшчыны ў лёсе замежных суайчыннікаў: "Каб застацца беларусам, мне непатрэбна Беларусь. Яна патрэбна для іншага — для нашай бяспекі. Калі ўсе будуць ведаць, што існуе моцная незалежная Беларусь, этнічных беларусаў у суседніх краінах ніхто і ніколі не папракне іхнім паходжаннем [...] Баюся, што на будучай польска-расійскай мяжы апусціцца новая "жалезная заслона" і адновіцца сітуацыя 30-х гадоў..."

Трэба тут падкрэсліць, што большасць дзяржаў свету дзейсна падтрымліваюць свае дыяспары. У Расіі ажыццяўляецца ўрадавая пастанова "Аб мерах падтрымкі суайчыннікаў у замежжы", створаны спецыяльны фонд "Соотечественник", які аказвае дапамогу рускім перасяленцам на сваю Радзіму. Польская дзяржава за свой кошт адкрывае школы з польскай мовай навучання ў Беларусі, розным чынам спрыяе таварыствам суайчыннікаў на нашай тэрыторыі. А што ж маюць нашы суайчыннікі ад дзяржаўных структур Бацькаўшчыны? Ці разумее цяперашняя кіруючая эліта важкасць дыяспары ў вызначэнні лёсу беларускага народа, ролю Радзімы, этнасу ў яе жыццядзейнасці? Ці ўсведамляе, што дыяспара з'яўляецца "надзвычай важным праця-

гам нацыі ў свеце, няхай сабе і ў пэўным сэнсе супярэчлівым". Частка народа, якая адлучана ад асноўнага этнасу, але не страціла памяці пра свае карані, мае патрэбу ў кантактах з Бацькаўшчынай. І гэта — натуральнае права, якое з'яўляецца неад'емнай часткай правоў чалавека. Паколькі ў патэнцыяле Айчыны ёсць частка працы эмігрантаў, іх продкаў, дзяржава абавязана прызнаць пэўныя правы дзеля захавання іх інтарэсаў у краіне іх паходжання, гістарычнай Айчыне. Беларусь жа не мае закона аб абароне такіх правоў. Для суродзічаў на постсавецкай прасторы набыццё ці вяртанне беларускага грамадзянства звязана з вялікімі складанасцямі і прасцей набыць расійскае, што і робяць многія суродзічы ў новых незалежных дзяржавах, парываючы сувязь з уласным этнасам. Шмат цяжкасцей (прапіска, працаўладкаванне) павінны пераадолець перасяленцы ў родныя мясціны з неспакойных рэгіёнаў былога Саюза. Яны сустракаюцца з абыякавасцю ўлады, адсутнасцю службы для вырашэння іх праблем. Не вызначаюцца квоты на перасяленне. Дзяржава не аказвае падтрымкі ў набыцці жылля, працаўладкаванні і інш. І адначасова як лёгка ўладкоўваюцца ў Беларусі выхадцы з іншаэтнічных рэгіёнаў былога Саюза, што маюць грошы і ладзяць тут свой бізнес.

Іншыя краіны праяўляюць клопаты пра сваіх замежных суайчыннікаў праз развіццё сістэмы нацыянальнай адукацыі, падтрымку друку і іншай нацыянальна-культурнай дзейнасці ў рэгіёнах іх кампактнага пражывання. У Беларусі на дзяржаўным узроўні таксама была ў 1993 г. прынята праграма "Беларусы ў свеце". Але яна фактычна згорнута, не выканана.

На постсавецкай прасторы дыяспара адчувае вострую патрэбу ў дзяржаўным фінансаванні пашырэння беларускай культуры, арганізацыі нацыянальнай асветы ў замежжы. Як падказвае практыка ўсіх нашых суседзяў, неабходны дзяржаўна-грамадскі фонд "Культура беларускага замежжа". Дарэчы, у многіх выпадках патрэбна нават не матэрыяльная дапамога. Так, наша дзяржава магла б паспрыяць атрыманню будынкаў для нацыянальных арганізацый. Іх не маюць беларусы ў Маскве, Санкт-Пецярбургу, іншых гарадах. Ці паклапаціцца хаця б пра спрыяльны візавы рэжым для суродзічаў.

Беларускія прадстаўніцтвы за мяжой у большасці сваёй не сталі каталізатарамі нацыянальна-культурнага жыцця, апорай для дыяспары. У прэсе ўжо згадвалася пра непаразуменні паміж пасольствам Беларусі і суродзічамі ў Маскве. Варта было б, каб дыпламатычныя прадстаўніцтвы давалі беларускім арганізацыям звесткі пра новых эмігрантаў, прадастаўлялі перасяленцам адрасы нацыянальных суполак, забяспечвалі іх беларускімі кнігамі.

Асобна трэба сказаць пра абавязак на дзяржаўным узроўні парупіцца аб адраджэнні нацыянальна-культурнага жыцця на спрадвечных этнічных беларускіх землях, якія аказаліся адарванымі ад метраполіі — гэта часткі Беласточчыны ў Польшчы, Смаленшчыны, Браншчыны, Пскоўшчыны ў Расіі, Віленскага краю ў Літве, Латгаліі ў Латвіі. Навукоўцы дыяспары шукалі вырашэнне гэтай праблемы на міжнародных канферэнцыях "Культура беларускага замежжа". Па іх падліках, на гэтых тэрыторыях жыве больш трэці ўсіх этнічных беларусаў, а "унікальны феномен беларускай этнакультурнай захаванасці на маргінальных землях сёння становіцца бачным знакам велізарнай этнічнай энергіі, якая можа сутнасна дапамагчы ажыццяўленню цуду агульнанацыянальнага адраджэння". Але ці ж можа выкарыстаць гэты феномен цяперашняя дзяржава, якой нібы і зусім непатрэбна сваё, нацыянальнае.

Звернем таксама ўвагу на тое, што ў міждзяржаўных дагаворах, заключаных Рэспублікай Беларусь з Польшчай, Украінай, Расіяй, Румыніяй, Кыргызстанам, Узбекістанам, Казахстанам, прадугледжваецца магчымасць свабоднага выяўлення, захавання і развіцця суайчыннікамі этнічнай, культурнай, моўнай, рэлігійнай самабытнасці без якой-небудзь дыскрымінацыі і ва ўмовах поўнай роўнасці перад законам. Але як рэальна ўлічваюцца інтарэсы беларускай супольнасці пры рэалізацыі міжнародных дагавораў? У 1990 г. было заключана пагадненне адносна беларускіх школ у Расіі. Аднак ці ёсць там сёння хаця б адна дзяржаўная школа з беларускай мовай навучання? Ці паспрыялі органы дзяржаўнага кіравання Беларусі паяўленню школ з беларускай мовай навучання на Беласточчыне, іншых этнічных землях, якія апынуліся па-за межамі Радзімы? Ці падтрымала дзяржава намаганні беларусаў Польшчы заснаваць у Беластоку Інстытут гісторыі і культуры Беларусі, аднавіць музей Івана Луцкевіча ў Вільні? На жаль, не.

Таму патрэбны больш грунтоўная юрыдычная база і рэальныя механізмы для ажыццяўлення правоў і законных інтарэсаў нашых замежных суайчыннікаў. Іх правы не забяспечаны, напрыклад, у адносінах набыцця ў Беларусі маёмасці, большага спрыяння ў галіне прадпрымальніцтва. Практычна не выкарыстоўваецца патэнцыял дыяспары ў сферы эканомікі, яе дзелавыя, палітычныя, культурныя і іншыя сувязі ў краінах пасялення. Прыцягненню інвестараў з беларускай дыяспары замінаюць супярэчлівае заканадаўства, непрадказальная сістэма падаткаў, нязначная доля прыватнага бізнесу.

Немалую дзялянку дзяржаўнай працы па ўзаемадзеянню з дыяспарай узялі на сябе грамадскія структуры. Цяпер існуюць дзве такія арганізацыі — "Бацькаўшчына" і "Радзіма". Мэта іх — ладзіць сувязі паміж Бацькаўшчынай і суайчыннікамі. Праўда, пра таварыства "Радзіма" цяжка гаварыць як пра грамадскую структуру: яна ўтрымліваецца дзяржавай. А таму ўлады і самі вырашаюць там многія пытанні. Цяпер існуе пагроза закрыцця адзінай газеты для замежных суайчыннікаў — "Голаса Радзімы". А вось да ЗБС "Бацькаўшчына" ўлады ставяцца як да камерцыйнай установы, якія, як вядома, задушаны падаткамі, высокім коштам арэнднай платы. Для грамадскага некамерцыйнага ЗБС "Бацькаўшчына", якое выконвае місію дзяржаўнай важнасці, з боку ўлады варта стварыць больш спрыяльныя ўмовы для працы.

У цяперашніх умовах падтрымка Бацькаўшчынай нацыянальнай дзейнасці замежных суродзічаў павінна стаць клопатам не толькі грамадскіх арганізацый, нацыянальна-дэмакратычных сіл, але і дзяржавы.

Язэп ГРАЦЭЎСКІ, экалёг (Канада)

# ЗАПАВЕДНІКАМ БЕЛАРУСІ ПАГРАЖАЕ НЕБЯСЬПЕКА ЗЬНІКНЕНЬНЯ

Цяперашнюю агульную сытуацыю ў Беларусі можна назваць застоем, дэградацыяй, адкатам назад. Гэта можна пабачыць на вуліцах сталіцы і ў сельскай глыбінцы; палітычным, грамадзкім і духоўным жыцьці; разважаньнях простых людзей і палітычных лідэраў; прафэсіянальнай падрыхтоўцы, на працы, у быце. Застой назіраецца ўва ўсіх сфэрах жыцьця краіны, у тым ліку і ў дзялянцы аховы прыроды і запаведніцкай справы.

З пачаткам "перабудовы" ў гэтай сфэры адбыліся вялікія зьмены і паляпшэньні. Замест партыйных функцыянэраў на кіруючыя становішчы ў запаведніках і адпаведных міністэрствах былі накіраваны сапраўдныя спэцыялісты: лесаводы, біялёгі, экалёгі. Скончыліся зьнішчаючыя ўсё жывое «царскія паляваньні». Выйшла ў сьвет вельмі вартаснае выданьне *Чырвоная Кніга Рэспублікі Беларусь: рэдкія і тыя што знаходзяцца пад пагрозай зьнікненьня віды жывёл і расьлін.* Было распрацавана шмат паважных рэкамэндацыяў для ўраду адносна прыродаахоўных праектаў. Быў прыняты "Закон аб асабліва ахоўных тэрыторыях". Намеціліся вялікія пазытыўныя зьмены ў справах аховы прыроды ў нашых запаведніках. Дзяржаўная запаведна-паляўнічая гаспадарка «Белавеская Пушча» стала Нацыянальным паркам, які атрымаў статус UNESCO "Біясфэрны запаведнік", і які быў занесены ў лісту аб'ектаў "Сусьветнай спадчыны".

Прыродаахоўная дзейнасьць Беларусі была скіраваная на асягненьне міжнароднага ўзроўню. Беларускія запаведнікі былі прызнаныя ў шэрагу міжнародных арганізацыяў; устанавіліся сяброўскія сувязі і супрацоўніцтва спэцыялістаў. "Бярэзінскі біясфэрны запаведнік" і Нацыянальны парк "Белавеская пушча" атрымалі ад Эўрапейскага Парляманту ў Штрасбургу *Дыплёмы Эўрапейскага запаведніка* і былі занесены ў лісту *Рэзэрватаў біягенэтычных рэсурсаў.* Прызнаны ў радзе міжнародных фондаў і арганізацыяў "Прыпяцкі ляндшафтна-гідралягічны запаведнік". Усё гэта накладвала на запаведнікі, акрамя нацыянальных абавязкаў, міжнародныя прыродаахоўныя абавязкі.

Прыход да ўлады А. Лукашэнкі перакрэсьліў усе дасягненьні запаведнікаў. Цяпер ён узяў іх пад сваю "апеку" — апеку спэцыяльна створанага Упраўленьня справамі прэзыдэнта. Непаінфармаванаму чытачу можа паказацца незразумелым, якія справы могуць быць у прэзыдэнта да запаведнікаў.

Ва ўсіх развітых краінах, да якіх мы залічаем і сябе, аховай прыроды кіруюць прыродаахоўныя ведамствы. У Беларусі, цяпер, усё інакш.

З прыходам да ўлады Лукашэнкі былі зьнятыя з кіруючых становішчаў спэцыялісты ў міністэрствах і запаведніках. На іх месца пастаўленыя былыя старшыні калгасаў. А складаныя, унікальныя экалягічныя сыстэмы запаведнікаў — гэта-ж не калгасы. Такое кіраўніцтва, і агульная культура кіраўнікоў, спарадзілі адпаведны, памылковы падыход да запаведнікаў як да гаспадарчых аб'ектаў. Але-ж кожнаму спэцыялісту вядома, што запаведнікі створаныя і існуюць толькі для дзьвёх галоўных мэтаў: першая — ахова прыродных сыстэмаў і захаваньне іх для будучых пакаленьняў; другая — навуковае дасьледваньне гэтых экалягічных сыстэмаў. Кіраваць функцыянаваньнем прыродных сыстэмаў ня ёсьць простая справа, і гэтым павінны займацца спэцыялісты.

"Прыпяцкі ляндшафтна-гідралягічны запаведнік" ператварыўся, апошнім часам, у вялікую аграрна-жывёлагадоўчую гаспадарку, з дапамогай якой адміністрацыя прэзыдэнта займаецца камэрцыяй. Тут паскоранымі тэмпамі сякуць сасновы лес і цаньнейшы ў Эўропе дубровы, для аховы якіх калісьці, у 1969 г., і быў заснаваны гэты рэзэрват. Тое-ж самае адбываецца і ў Нацыянальным парку «Белавеская пушча». Шырока вядомая несамавітая гісторыя пра драўляныя стойкі для шахтаў, якія Адміністрацыя прэзыдэнта зьбіралася прадаць Украіне. Дурны ўказ зьверху, і ў нашых запаведніках была сысечаная вялікая колькасьць цэнных дрэў. Для інфармацыі, гэтыя стойкі пасьля так і згнілі ў лесе, бо "заламалі" такую цану, што іх ніхто ня купіў.

Апрача загатоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі і дрэва, Адміністрацыя прэзыдэнта "спускае" заказы на загатоўку дзічыны, ягадаў, мёду, лекарскіх траў для сваіх рэстаранаў і бараў, якіх, зараз, ужо цэлая сетка ў Менску. На адным навукова-практычным паседжаньні з боку новага кіраўніцтва прагучаў і довад і апраўданьне гэтых дзеяньняў: усёроўна, мауляў, усё гэта зьнікне, бо мясцовыя людзі пазьбіраюць. Замест выконваньня сваіх прафэсійных абавязкаў, лесьнікі, егеры, навуковыя працаўнікі зараз робяць грошы для Адміністрацыі, а самі не атрымоўваюць заработную плату месяцамі.

Усім даўно вядома, што на тэрыторыі запаведнікаў законам забараняецца паляваньне, прамысловая лоўля рыбы, адлоў дзікай жывёлы, зьбіраньне грыбоў, ягад, расьлін і насякомых. Дазволена гэта ў строга абмежаванай колькасьці і толькі для патрэбаў запаведніка, іх працаўнікоў і людзей, што жывуць на іх тэрыторыі. У гэтым кантэксьце незразумелы ўпор на атрыманьне прыбылі ад паляваньня ў сельскіх замежных паляўнічых. Гэта прыводзіць да масавага адстрэлу аленяў, кабаноў, ваўкоў, якіх застаецца ўсё менш і менш. У канцы-ж канцоў у Беларусі ёсьць розныя звычайныя лясныя гаспадаркі, паляўнічыя заказьнікі і г. д., якія былі заснаваны для такіх мэтаў. Замест пашырэньня плошчы запаведных лясоў, наглядаем далучэньне іх да сельскагаспадарчых угодзьдзяў і распродаж унікальных лясных масіваў, балот, вазёр, дзікай фаўны і флёры розным камэрцыйным структурам. Цяпер нават прыгожая гасьцініца ў "Белавескай пушчы" ператварылася амаль-што ў публічны дом.

Усе новыя заканадаўчыя палажэньні, па якіх ажыццяўляецца іх кіраваньне і функцыянаваньне Адміністрацыя прэзыдэнта завуалявала і падагнала пад "Закон аб асабліва ахоўных тэрыторыях", каб узаконіць свае злачынныя, рабаўніцкія дзеяньні.

Зусім відавочна, што мэта гэтых мерапрыемстваў ёсьць атрыманьне прыбылі, якая ідзе чыноўнікам з Адміністрацыі прэзыдэнта. Атрыманая валюта добра выдаткоўваецца на бескарысныя закупы і паезкі за мяжу. Туды-ж ідуць і грошы ад міжнародных навуковых праектаў, якімі зараз чамусьці таксама распараджаецца прэзыдэнт.

Вось так рабуецца і нішчыцца прырода запаведнікаў Адміністрацыяй нашага «ўсенародна выбранага прэзыдэнта». Кожнаму сапраўднаму грамадзяніну-экалёгу зразумела, што гэтая мізэрная, мамэнтальная выгада ніяк не апраўдвае вялікія страты спрычыненыя такой эксплаатацыяй гэтых унікальных куткоў беларускай прыроды.

Ніхто ня мае права парушаць дзяржаўныя і міжнародныя прыродаахоўныя патрабаваньні і законы, нават "першы прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь". Пры навуковых візытах экспэртаў-экалёгаў з розных міжнародных арганізацыяў хаваюцца ад іхніх вачэй злачынствы ўчыненыя ў запаведніках. Водкай ды падарункамі стараюцца купіць іхнае маўчаньне. Можна сабе ўявіць, да якога рэзанансу ў сьвеце можа прывесьці пазбаўленьне запаведніка аднаго із статусаў за невыкананьне міжнародных прыродаахоўных патрабаваньняў!

Усяму вінаваты непрафэсіяналізм, і дзеля гэтага нас яшчэ чакае шмат праблемаў. Усё гэта адбываецца тады, калі, як у вядомай пагаворцы «з гразі — ды ў князі». Усім людзям трэба займацца сваімі справамі: лесаводу — ахоўваць і вырошчваць лес, навукоўцу — вывучаць, настаўніку — вучыць, селяніну — вырошчваць хлеб... Тады і будзе толк.

Беларускія запаведнікі — гэта ўнікальныя куткі прыроды, гордасьць і багацьце нашага народу, сусьветная спадчына, якую мы атрымалі ад бацькоў, а не прыватная маёмасьць групы недавучак. Мы павінны выратаваць і захаваць гэтую спадчыну для будучых пакаленьняў.

## Яшчэ адно пасланне ў Савет Еўропы

Як стала вядома, днямі ў Кіеве адбылася буйная міжнародная канферэнцыя праваабарончых арганізацый і юрыстаў Украіны, Малдовы, Беларусі, Даніі, Чэхіі, Нарвегіі... Яны выпрацавалі рэкамендацыі па рэфармаванню судовай сістэмы ў Беларусі, Малдове і на Украіне, якія накіраваны ў Савет Еўропы, кіраўнікам і парламентам еўрапейскіх краін.

У дакуменце адзначаецца, што ў Беларусі даволі кепскае становішча ў гэтай справе. Тут работнік міліцыі можа пасадзіць чалавека на некалькі сутак. Таму пастаўлена задача стварэння ў нас незалежнага суда, аднаўлення прыватнай адвакатуры.

толькі ў адной ватоўцы, без штаноў. Абавязкова трэба ісці ў дарогу, адпаведна апрануўшыся. Я ўспамінаю пра гэта кожны раз, калі напярэдадні ўсякіх рэферэндумаў і выбараў выцягваю з паштовай скрынкі агіткі, праграмы, заклікі. Як правіла, кожны кандыдат, каб спадабацца выбаршчыкам, вылучае на першае месца эканамічныя пытанні. Прынята думаць да гэтага часу, што эканоміка, а дакладней, танная, двухрублёвая каўбаса, выцягне нас з крызісу і пацягне за сабой актывізацыю ўсяго астатняга, у тым ліку і культуру. Дазволю сабе ў адказ не надта культурнае слова: лухта!

А выказаўся я так недалікатна таму, што і я, як большасць з вас, чытачоў, інтэлігент з вялікай нацяжкай. Калі можна так сказаць, інтэлігент у першым пакаленні, выхадзец з вёскі, праўда, не яе выхаванец.

Тыя аргументы, якія я буду прыводзіць, не новыя. Яны ў свой час гучалі з высокіх трыбун, друкаваліся ў газетах і часопісах, пра іх напісана ў разумных кніжках. Але яны да гэтага часу не запатрабаваны нашымі ўладамі. Культура не стала, так бы мовіць, дзяржаўнай дактрынай. Так, недзе на апошнім месцы пасля спорту.

Чаму ж культура ў шырокім сэнсе гэтага паняцця стала непатрэбнай нашаму грамадству, нашай дзяржаве? Чаму двухрублёвая каўбаса, кавалак хлеба, бутэлька малака і асабліва "малака ад звар'яцелай каровы" ставяцца ў горадзе і асабліва на вёсцы на самае першае месца, адмятаючы ўсё астатняе як непатрэбнае?

Вядома, што шырокае паняцце культуры даецца нам пры нараджэнні толькі ў выглядзе зярнят. І ўсё залежыць ад таго, у якую глебу яны лягуць, якія дадуць усходы і якое пустазелле вырасце побач. Ці здолеем мы альбо замарудзіць рост гэтай "дзікай травы", альбо зусім яе вырваць, — гэта залежыць ад нас саміх і ад ахвоты і зацікаўленасці ўлады ў асобе выхаваных на лепшых узорах чалавечых якасцяў дзяржаўных мужоў. Агульнавядома, што бескультурнага чалавека часта параўноўваюць з пустым коласам...

Чамусьці мала каго з уладных структур турбуе, што большасць насельніцтва так і не змагла далучыцца да агульначалавечай культуры, пазбавіцца ад шматлікіх заганаў, захоўваючы ў сабе якасці раба, баязліўца, прыстасаванца, падхаліма, двурушніка.

Мяне часам наведвае жудасная думка: мусіць праўда, што ўладзе і дзяржаве наогул выгадна такое становішча. Такі народ можна лёгка падпарадкоўваць, можна віць з яго вяроўкі. Ён, як і сёння, будзе ціха сядзець "пад венікам", нават не ўяўляючы сабе, што жыццё яго ідзе і пройдзе ў здзеках і нястачы, у грахах і дзеяннях, не прыстойных чалавеку. Селянін ці то баіцца задумацца, ці то не хоча дадумацца, што ідзе і праходзіць гэтае жыццё так кепска не таму, што ў яго такі лёс, што Бог так хоча, а таму, што ён сваімі паводзінамі сам сябе паставіў у такое становішча і пагэтаму стаў такім затурканым, забітым, запалоханым і не здольным думаць сваёй галавой. Ён, загіпнатызаваны, робіць тое, што ў звычайных умовах нармальны чалавек і ў думках не дазволіў бы сабе.

Што ж гэта, братка-беларус, з табою робіцца? Што ж ты спіш, як у зачараваным сне? Што ж будзе з табой, з усімі намі, калі годнасць сваю чалавечую станем мы мяняць на ахапак ячнай саломы ці воз мурагу? Што ж мы баімся **паказаць** сваю чалавечую годнасць, а толькі расказваем пра яе, чаму ўжо мала хто верыць?

Годнасць тады годнасць, калі ты з высокападнятай галавой, валодаючы смеласцю і дадзеным прыродай табе розумам, можаш адкрыта сказаць "так" або "не" і з дастатковай рашучасцю будзеш адстойваць сваю пазіцыю, не аглядаючыся па баках!

Насіць жа торбу за плячыма і хваліцца ўсім, што ў цябе былі смелыя і адважныя продкі, як робяць зараз некаторыя, шмат мудрасці не трэба. Мудрасць заключаецца ў тым, каб самім стаць такімі, як нашы славутыя землякі-папярэднікі, працягваць іх справу, перадаваць з самага маленства сапраўдную годнасць сваім дзеткам.

Прачынайся, братка-беларус! Досвітак на двары. Дарога табе наканавана цяжкая — да ісціны і годнасці шлях нялёгкі.

У дарогу, браце!

*в.Мазалі.*

*Маладзечанскі раён.*

**Культура**

# Канцэрты Мікалая Траццякова. У імя Беларусі

**22 лістапада, па словах нястомнага беларускага паэта-песенніка Мікалая Траццякова, стане Днём нараджэння новай беларускай эстрады. Эстрады без Вуячыча, "Песняроў", "Сяброў" і іншых музычных "мафіёзі". Яны, па меркаванні Мікалая Іванавіча, сваімі песнямі замбіруюць народ і прыніжаюць сапраўдную годнасць нацыянальнай эстрады. У гэты дзень у Канцэртнай зале "Кастрычнік" адбудуцца чацвёрты і пяты канцэрты аўтарскага фестывалю творчасці паэта Траццякова, а таксама пройдзе афіцыйная цырымонія занясення ў сусветную Кнігу рэкордаў Гінэса першага ў гісторыі сусветнай культуры фестывалю творчасці аднаго аўтара і прадзюсера пяці эксклюзіўных канцэртных праграм у імя Беларусі.**

— Мяне абражае, што беларускі тэле- і радыёэфір зусім забіты расійскімі песнямі. Трэба паважаць саміх сябе, свае культуру і традыцыі. Так, у нас убогая і шэрая эстрада. Але расійская эстрада — учарашні дзень. А нам трэба жыць заўтрашнім. Паглядзіце на маладых беларускіх выканаўцаў: яны ж самыя сапраўдныя патрыёты. Жабракі, галодныя, працуюць задарма. Але ж спяваюць. І не бягуць на Захад. Таму што разумеюць: культура перш за ўсё, а потым — эканоміка. Паднімем культуру — адрадзім нацыю. Дарэчы, на маіх канцэртах усе артысты будуць спяваць толькі, кажучы па-руску, "живьем". Сумняваецеся? Прыходзьце на канцэрт. Гэта будзе адраджэнне эстраднага нацыянальнага гонару...

**Марына КОКТЫШ.**

# Беларускія каштоўнасці: час вяртацца на радзіму

Летам сёлетняга году ў канфэрэнц-зале гасьцініцы "Юбілейная" працавала Міжнародная навуковая канфэрэнцыя «Рэстытуцыя культурных каштоўнасьцяў: праблемы вяртаньня і сумеснага выкарыстаньня — юрыдычныя, навуковыя і маральныя аспекты», якая праводзілася пад эгідай ЮНЭСКО. Арганізатары — Міністэрства культуры Беларусі і Нацыянальны навукова-асьветніцкі цэнтр імя Ф. Скарыны пры Міністэрстве адукацыі Беларусі.

**У канферэнцыі прымалі ўдзел прадстаўнікі навуковых, культурных, музейных, архіўных арганізацый і ўстаноў, бібліятэк з 8 краін (Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы, Чэхіі, Літвы, Германіі, Шатландыі). Было прачытана 36 дакладаў і паведамленняў па розных напрамках: гістарычных, юрыдычна-культурных, музейна-архіўных і іншых. Выступалі гісторыкі, філолагі, мастацтвазнаўцы, археолагі і многія іншыя спецыялісты. Асноўнымі навукова-арганізацыйнымі пытаннямі былі выяўленне, вывучэнне і па магчымасці вяртанне на радзіму ўсіх тых архіўных, археалага-культурных і многіх іншых відаў крыніц, якія пры розных абставінах, асабліва падчас войн на нашых землях у XVIII—XX стагоддзях, трапілі з Беларусі ў блізкія і далёкія замежныя краіны.**

**Тут можна, напрыклад, сказаць, што Шчарсоўская (Навагрудскі раён) бібліятэка Храптовічаў, вельмі багатая на сярэдневяковыя кнігазборы, архіўныя матэрыялы, з часу першай сусветнай вайны аказалася ў Кіеве. Зараз наладжаны ўзаемаадносіны з адпаведнымі ўстановамі Украіны, і ставіцца задача сумеснага яе вывучэння і выкарыстання матэрыялаў рознымі спецыялістамі дзвюх краін. Па гэтых пытаннях выступіў на канферэнцыі А. Фурс, загадчык аддзела Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі.**

Практычна ўсе музеі Беларусі, бібліятэкі і архівы многіх іншых устаноў падчас акупацыі 1941—1944 г. былі вывезены ў Германію ці разбураны. Тут таксама неабходна сказаць, што многія мастацкія творы, архіўныя матэрыялы пры розных абставінах трапілі ў розныя гарады Расіі, Украіны, Польшчы, Германіі, Літвы, Швецыі і іншыя краіны Еўропы. У Беларусі шмат гістарычных цэнтраў, якія неабходна аднаўляць, сярод іх сярэдневяковы Нясвіж. Ставіцца задача вярнуць усе тыя мастацка-гістарычныя багацці, якія былі тут створаны, а зараз захоўваюцца за межамі Беларусі.

Наш зямляк, доктар гістарычных навук М. Мікалаеў (ён родам з в. Нянькава Навагрудскага раёна) расказаў аб беларускіх кніжных скарбах, што захоўваюцца ў Расійскай Нацыянальнай бібліятэцы ў Санкт-Пецярбургу, дзе ён працуе загадчыкам аддзела рэдкай кнігі, і аб рэальных магчымасцях іх даследаванняў.

Доктар мастацтвазнаўства Н. Высоцкая, загадчыца аддзела старажытнабеларускага мастацтва Дзяржаўнага мастацкага музея Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ, паведаміла аб спісе каштоўнасцей, перададзеных з Музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны ў Мінску ў 1950 г. Польскай Народнай Рэспубліцы.

Доктар мастацтвазнаўства, прафесар А. Федарчук, старшыня Нацыянальнай камісіі па пытаннях вяртання на Украіну культурных каштоўнасцей пры Кабінеце Міністраў Украіны выступіў з дакладам аб рэстытуцыі і вяртанні культурных каштоўнасцей як важных фактараў міжнароднага супрацоўніцтва. Д. Бубноўскі, начальнік Дзяржаўнай інспекцыі па ахове помнікаў гісторыі і культуры Міністэрства культуры РБ спыніўся на гісторыка-культурных каштоўнасцях у жыцці грамадства і дзяржавы. Вяртанне архіўных дакументаў на гістарычную радзіму знайшло адлюстраванне ў выступленні А. Міхальчанка, кандыдата гістарычных навук, старшыні Дзяржаўнага камітэта па архівах і справаводству РБ. Сумеснае выкарыстанне архіўных і музейных матэрыялаў з пазіцыі Германіі было асветлена Іаханэсам Шлоотцам, доктарам гісторыі і паліталогіі, прафесарам Свабоднага універсітэта (Берлін). Суадносіны міжнародна-прававых і маральна-этычных норм у сферы рэстытуцыі культурных каштоўнасцей былі раскрыты кіеўлянінам, доктарам юрыдычных навук В. Акуленкам (Інстытут дзяржавы і права імя В. Карэцкага Нацыянальнай акадэміі навук Украіны) і А. Севаняховым, кандыдатам філалагічных навук, прэзідэнтам лігі абароны нацыянальнай маёмасці, рэдактарам «Нацыянальнай газеты», членам праўлення Асацыяцыі бібліятэк, музеяў і архіваў (Масква).

Праблемы выяўлення культурных каштоўнасцей, якія належаць адной краіне, на тэрыторыі іншых краін, знайшлі адлюстраванне ў дакладзе М. Нікандрава, супрацоўніка Міністэрства культуры Расійскай Федэрацыі (Масква). Практыка вяртання культурных каштоўнасцей у Беларусі на фоне еўрапейскага заканадаўства была паказана А. Мальдзісам, доктарам філалагічных навук, прафесарам, дырэктарам Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф. Скарыны, старшынёй грамадскай камісіі Беларускага фонду культуры «Вяртанне».

Аўтар гэтых слоў, як археолаг, пачаў супрацоўнічаць з 60-х гадоў з польскімі археолагамі, вывучаў археалагічныя калекцыі ў музеях Варшавы, Кракава, Познані і іншых. У выніку пошукаў быў падрыхтаваны і надрукаваны шэраг прац, у тым ліку вялікая публікацыя «Древности Белоруссии в музеях Польши». Мн., 1979, Навука і тэхніка; публікацыя ў «Вядомосцях археолёгічных», Варшава, 1972. Том 37,2 і інш. Аналізу гэтых крыніц і быў прысвечаны мой даклад. Заслугоўвае асаблівай увагі скарб пяці сярэбраных паясоў з Чырвонага Бору (Лагойскі раён), яго часткі захоўваюцца ў Варшаве, Вільні, Маскве. Яны маюць культавыя сімвалы, якія адносяцца да старажытнага славянска-індаеўрапейскага абрада «ініцыяцыі»: пераходу хлопчыкаў у групу дарослых мужчын. Храналагічна абрад адносіцца да першых стагоддзяў нашай эры. Паясы маюць пэўныя паралелі з сусветнага значэння шэдэўрамі XIV ст. да н.э. Мікенскай калекцыі, дзе блізкі па тыпу выраб знаходзіўся разам з залатой пасмяротнай «маскай Агамемнона». Рэшткі аналагічных чырвонаборскім паясам знойдзены таксама ў Таймանаве, на Быхаўшчыне...

Матэрыялы канферэнцыі будуць надрукаваны ў асобным зборніку.

Падведзены вынікі працы канферэнцыі. Усе пастаўленыя пытанні павінны разглядацца на высокім дзяржаўным узроўні. Праца навукова-арганізацыйнага форуму адыграе адпаведную ролю ў гісторыі Беларусі.

**Л. ПОБАЛЬ,**
**доктар гістарычных навук, прафесар.**

«НАВІНЫ А.Н.Б.»

